БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»






80 гадоў абвяшчэньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.
Да гэтае даты рэдакцыя «Нашай Нівы» рыхтуе адмысловы нумар.
Дзень выхаду — 16 сакавіка.




**Славамір Адамовіч**

**НАПЯРЭДАДНІ**

*Тацяне Сямірскай*

*... Проста ў вакно маё поўня*
*сьвеціць, а сын мой названы*
*дзеліцца думкай наіўнай,*
*і сам я трывожны ад думак,*
*і ў небе — о любая! —*
*ў небе вячэрнім, у чорным,*
*дзе зорны трытон сушыць брушка*
*Птушынага Шляху, —*
*там вечныя і маладыя*
*мы пралятаем*
*у нашым цудоўным сусьвеце*
*і засяваем валокі і дзесяціны*
*трывалым насеньнем, якое*
*высьпела ў чэраве*
*Рыму, Афінаў*
*ды Вільні крывіцкай...*

*у лютым 1998 году*

# НАША НІВА

## № 5 (102) 2 сакавіка 1998 г.



# Матор! Дубаль два...

***25 сакавіка споўніцца 80 гадоў з дня абвяшчэньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі***

Чарговы юбілей ужо сёньня не выглядае такім, як заўсёды. Толькі за мінулы год ідэя БНР, што раней успрымалася як надзвычай паважны, але ўсё ж архіўны дакумэнт, зрабіла адразу некалькі крокаў да жывое рэальнасьці. Абнавіліся кіраўнічыя структуры, куды прыйшло багата маладых палітыкаў. Пасьля ліпеньскай нарады ў Вільні, дзе старшыняваў Барыс Рагуля, была ўтвораная Эўрапейская сэкцыя Рады БНР, расплянаваная дыпляматычная дзейнасьць прадстаўнікоў Рады, прагучала і пачала ажыцьцяўляцца ідэя прыёму ў грамадзянства БНР.

У Беларусі гэтыя зьмены выклікалі як станоўчы, так і супярэчлівы розгалас. Некаторыя людзі ўспрынялі ідэю грамадзянства БНР як штосьці надта экзатычнае. Сёй-той нават пасьмяяўся з БэЭНэФу, які, маўляў, «будзе раздаваць пашпарты»...

Я згадваю гэткія сьмяшкі ў яшчэ падсавецкай Літве, калі патрыятычна настроеныя літоўцы дэкляравалі свой намер уступіць у грамадзянства будучай незалежнай рэспублікі і атрымлівалі адпаведныя пасьведчаньні.

Зразумела, што нашмат цяжэй разбураецца той Бэрлінскі мур, які ў сьвядомасьці народа, чымся той, што фізычна падзяляе Захад і Ўсход. Пачаць думаць шырэй, чым толькі катэгорыямі ўласнага кутка — на гэта народу патрэбны час. Але гэты час мінае.

І вось ужо... бачыў я тых літоўскіх насьмешнікаў. Яны, колішні электарат камуністаў і амону, прынялі новыя парадкі, як свае, і пра колішні сьмех ня згадваюць. А людзі, якія калісь атрымлівалі пасьведчаньні, а пасьля стаялі з транспарантамі супраць савецкіх танкаў генэрала Усхопчыка, першыя атрымалі рэальнае грамадзянства. І больш за тое. Сёньня найбліжэйшая суседка Беларусі Літва выбрала на прэзыдэнта амэрыканскага літоўца Адамкуса, чым засьведчыла, што мысьліць шырокімі катэгорыямі, што насельніцтва пачувае сябе ў кантэксьце разьвітых краінаў і прагне стабільнасьці, а ня стрэсаў. Канкурэнту не дапамаглі ані малады ўзрост, ані «гіпнатычныя» страсныя прамовы, ані мясцовае паходжаньне. Не заваражыў.

Нішто не перашкаджае думаць, што падобная пэрспэктыва, няхай са спазьненьнем, чакае і нас. Рана ці позна людзі самі ўбачаць сваю краіну зь яе атавістычнымі парадкамі ў кантэксьце суседніх дзяржаваў. Рана ці позна проста захочуць жыць, як усе. Рана ці позна лясьнецца Бэрлінскі мур у галовах электарату. І ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі паспрыяе гэтаму.

Гэта першае. Другое, чаму яна паспрыяе, — вяртаньню ў сьвядомасьць гістарычнае пэрспэктывы.

Як чалавек зьвязвае кожным сваім буднем нітку лёсу паміж дзедам ды бацькам і сынам ды ўнукам, так і дзяржава ня выстаіць, калі не разумее, адкуль яна і куды. Мы ўсе жадаем лепшае будучыні, і гэта — вэктар разьвіцьця. Але мы самі без папярэднікаў — кропка, ня болей. З кропкі няма вэктара. А самае сьветлае, што ў нас было ў мінуўшчыне сваё — гэта ідэя БНР. Не замазаная ані скрайнасьцямі, ані ксэнафобіяй, ані самаедзтвам.

Рэспубліка Беларусь — адзіная ў рэгіёне краіна, якая не адбудоўвае нажытае

*Працяг на старонцы 3.*

# Патрыётаў — пад суд, калябарантам — пасады

Як ні выкручвайся, але ў жыцьці сапраўды ёсьць месца подзьвігу. Ёсьць месцы на покуці — для герояў. І месцы на «вакзале» — для духоўных бесхацімцаў.

Ты хочаш пражыць высока, годна, палюдзку — ты так і пражывеш.

Ён думае пражыць абы ціха, каб «мая хата з краю», ідучы шляхам найменшага супраціву, прагнучы кар'ернага посьпеху любой цаной, пераступаючы праз натуральныя запаветы продкаў, дадзеныя ў традыцыях, — калі ён так думае пражыць, то пражыве. Потым надыйдзе час расплаты. Ды яшчэ раней роднае дзіця спытае: «Тата, што ты рабіў, калі акупанты кідалі за краты нашых юных герояў?» Тата рабіў кар'еру...

На момант, калі 18 лютага 1998 году аб 11 гадзіне 25 хвіліне ў сталіцы Беларусі пачаўся суд над маладымі беларускімі патрыётамі Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім, былы дырэктар 95-й менскай сярэдняй школы Юры Эдуардавіч Канзас ёрзаў ужо ў крэсьле загадчыка аддзела адукацыі Цэнтральнага раёну.

Пра гэтага «героя» беларускай сучаснасьці я згадаў у артыкуле «Стаяньне супраць рэжыму» («НН», №31 за 20.10.1997) як пра «душапрыказчыка» Вадзіка Лабковіча, якога ён грозіўся выключыць са школы. Не спадабаліся Канзасу і журналісцкія характарыстыкі ў свой адрас. Ужо на другі дзень «пэдагог» пагражаў аўтару артыкула судом, на што апошні адказаў: паспрабуй. Эдуардавіч ня стаў спрабаваць. І вось цяпер нечаканая сатысфакцыя — падвышэньне па службе. Рэжым заўважыў новага прыхільніка, пасьпяшаўся падабраць, даў адказную пасаду. Пераўтварэньне ў калябаранта адбылося.

Па тэлефоне 234-10-21 я спытаўся ў новапасаджанага, якім чынам гэта яму ўдалося. Юры Эдуардавіч быў выключна сьціплы і адказаў, што, маўляў, так атрымалася: былы загадчык пайшоў, а я на яго месца.

Атрымалася, дык атрымалася, чаго толькі не здараецца ў жыцьці. Дарэчы, а што былы Вадзімаў настаўнік можа сказаць наконт суда над хлопцамі? Як з пункту гледжаньня школьнага пэдагога можна расцаніць дзеяньні міліцыі ў дачыненьні да грамадзянаў, якія прыйшлі на аб'яўлены адкрытым суд, а трапілі пад амонаўскія дубінкі? — задаю я пытаньні. Але новы загадчык не бярэцца камэнтаваць дзеяньні суда і міліцыі. Зрэшты, іншага і нельга было чакаць. Тым ня менш, ён не сьпяшаецца класьці трубку. Пажадаўшы Вадзіму Лабковічу больш у турму не трапляць, ён спрабуе ўцягнуць мяне ў дыспут. Ён паранейшаму думае, што нельга расьпісваць помнікі, што непаўналетняга Вадзіма «толкают» у палітыку дарослыя, што школьнікі ня могуць рабіць самастойны ўсьвядомлены выбар... Апошняе з вуснаў гісторыка гучыць асабліва цынічна. І ён гэта ведае, але шукае, што называецца, дурных. Даўно вядомы тып паводзінаў «пана з мужыкоў», пра якіх беларускі фальклёр надзвычай трапна папярэджвае: ня дай Бог сьвіньні рогі, а мужыку панства.



фота IREX/ProMedia

На ўсе гэтыя «хітрыкі», прыстаўляньні, перакульваньні ў скуру «законьніка», грамадзяніна, які дзейнічае толькі «законна» і «клапоціцца» пра лёсы маладога пакаленьня, былому дырэктару Канзасу адказалі яго калегі і дзясяткі вучняў 95-й СШ, адказалі тым, што прыйшлі падтрымаць свайго вучня й аднаклясьніка Лабковіча на судзе.

18 лютага да абеду ўдалося трапіць у залю судовых паседжаньняў і мне. Вокны былі закрытыя, не хапала кіслароду, але людзі мужна трывалі духату й цеснату. А вось амонаўскі сабака ня вытрываў і дзесяці хвілінаў — часта й гучна пачаў хакаць ды пускаць сьліну. Яго вывелі.

Судзьдзя зачытаў абвінаваўчае заключэньне, пачаў задаваць пытаньні, пагарджаючы як людзьмі ў залі, гэтак і падсуднымі. Але як ні цiснулі на псыхіку падсудных судзьдзя, пракурор ды засядальнікі-«ківайлы», юнакі трымаліся годна. Вадзім сядзеў да мяне ў профіль: чысты, прасьветлены, далікатны. Шыдлоўскі выглядаў, бадай, гэтаксама. Я думаў, колькі ім яшчэ трэба пережыць, каб высьпеліць у душы сапраўдную нянавісьць да прадажных «шасьцёрак», вертухаяў, зашмальцаваных пракурорчыкаў ды іншай нечысьці, якая сёньня вывернула на ўрадлівыя пласты глебы пусты, але такі цяжкі падзол дзікунства. Шмат перажывуць, пераадолеюць хлопцы — і застануцца паважанымі людзьмі, і будуць іх слухаць нават старэйшыя, і меншыя будуць браць прыклад.

Што ж да лёсу Юрыя Эдуардавіча, майго аднагодка, то, трэба думаць, ягоная кар'ера будзе доўжыцца роўна столькі, колькі пратрымаецца ў нас акупацыйны рэжым. Не выключаю, што могуць быць і іншыя варыянты.

**Славамір Адамовіч**

ПОШТА

# Да пытаньня аб патрыятызьме

Як мы радаваліся падзеньню камуністычнага рэжыму!

Гэта азначала вызваленьне, свабоду. Зьніклі абкамы, гаркамы ды іншыя «камы». Нашым дзецям ужо не навешвалі зорачкі з выявай кучаравага Валодзі Ульянава. Зьніклі чырвоныя гальштукі-ўдаўкі, якія мы хавалі пад кашулю, памятаю, а настаўнікі прымушалі, каб мы, не саромячыся, гэта насілі. Піянэршчына ды арганізацыя пад назвай «камсамол», ад членства ў якой напрасткі залежала наша знаходжаньне ў вышэйшых навучальных установах, здавалася, зьнікла назаўсёды. Скончылася дыктатура хамаў. Мы выпакутавалі гэтыя зьмены сваёю адданасьцю ідэям вольнасьці, і абвяшчэньне незалежнасьці Бацькаўшчыны ўспрымалася як незалежнасьць ад таталітарызму, камунізму, ціску натоўпу на асобу. Як вызваленьне ад ненатуральнай для чалавека ідэалёгіі.

У дзяржавы зьявіліся свой сьцяг і свой герб. Нашыя дзеці атрымалі замежныя пашпарты і здолелі ў цывілізаваным сьвеце адчуць сябе прадстаўнікамі незалежнай дзяржавы. Ужо ня трэба было саромецца сваёй «саўковасьці» ды хваста ў складзе дэлегацыі, які сачыў за кожным тваім крокам за мяжой.

І вось, намаганьнямі ўладаў, адрадзіўся камсамол, але пад новай шыльдай. Зараз гэтая маладая пачвара носіць імя БПСМ. «Б» — гэта ўсім зразумела. «П» — гэта ня тое, што вы падумалі, а, маецца на ўвазе, «патрыятычны». Запісваюцца туды маладыя прыстасаванцы, чые пераканаьні нічога агульнага з патрыятызмам ня маюць. Улады ізноў калечаць юныя душы ў турмах. Уся віна хлопцаў у тым, што напісалі на плоце «Жыве Беларусь!» Калі б ва ўладзе былі людзі інтэлігентныя, якія б валодалі дзьвюма дзяржаўнымі мовамі, то ведалі б, што напісанае на сьцяне азначае «Да здравствует Беларусь!», што вельмі патрыятычна, і абвінаваціць хлопцаў магчыма, мабыць, толькі ў парушэньні эстэтычнасьці плота. Чаго ж тады трымаць за кратамі юнакоў, калі да таго ж яшчэ адзін зь іх непаўналетні? Каб запалохаць астатніх?

Лепей рэжыму азірнуцца на свае дзеяньні, далёка не патрыятычныя. Калі здымаюць дзяржаўны сьцяг, а замест яго вывешваюць камуністычны — гэта, мякка кажучы, непатрыятычна. Ані ў воднай постсавецкай дзяржаве не дадумаліся да гэткага. А вось у нас верныя халопы без камуністычнай сымболікі жыць ня могуць. А калі зьнялі «Пагоню» і прыстасавалі камуністычны герб да Дому ўраду, то гэта што? Для каго гэта? Для дыназаўраў?

Хачу параіць спадарам дэмакратам на будучыню: калі ізноў будзеце ўмацоўваць герб «Пагоню» на тым будынку, так, перш за ўсё, здыміце стары, а не прыкрывайце яго новым. Як бачыце — кепская прыкмета. Ды прымацуйце «Пагоню» так, каб адарваць магчыма было толькі са сьцяной!

А пакуль на нашай зямлі пакутуюць за кратамі дзеці, якім не абыякавы лёс Радзімы. Якія любяць сваю Бацькаўшчыну, а не рэжым, якія ня блытаюць паняцьце патрыятызму з адданасьцю кіраўнікам чаго б там ні было. І не ўступаюць у ніякія БПСМы.

*ЛІСТ ДА ВЯЗЬНЯ*

*Я ўжо лічыў, час скончыўся пракляты:*
*Растаяў, згінуў, назаўжды ўцёк.*
*Ды не бандыта кінулі за краты —*
*Шаснаццацігадовае дзіцё.*
*За тое адарвалі ад матулі,*
*Што мілы для яго радны абсяг.*
*За тое, што ўсім нам няўтульна,*
*Як бачым тут камуністычны сьцяг.*
*З даўніны ўсплываюць успаміны*
*Аб тым, як не давалі спаць начамі,*
*Пра тое, як тады ледзь не загінуў,*
*Усё так і стаіць перад вачамі.*
*На допыце, немалады ўжо сьледчы,*
*Дастаў канфіскаваныя паперы,*
*Сказаў, што зараз тут мяне скалечаць,*
*Калі не перайду да іх у веру.*
*Як натуральна, нам не па дарозе,*
*Дык вырвацца на волю было цяжка,*
*Ад болю распластаўся па падлозе,*
*А потым мыў яе сваёй цяльняшкай.*
*Ужо ведаў, што ахова добра цэліць,*
*Узброена нажом ды аўтаматам.*
*Пабегчы — дык, напэўна, і застрэляць.*
*Наблізісься — яшчэ зарэжуць, каты.*
*Хай розны наш узрост — падобны лёсы.*
*У цішыні адседзецца ня здолеем.*
*Таму гэты хлапчук сьветлавалосы*
*Чагосьці закрануў у душы да болю.*
*Дык не здавайся і трымайся прама.*
*Застанься тым, кім маці нарадзіла,*
*Каб не ступіць нагой у тую яму,*
*Ў якую заганяюць нас з Радзімай!*

**Уладзімер Гуткоўскі**

# Новая алькагольная палітыка

Момант цяпер адказны, трэба набірацца мужнасьці і зірнуць гісторыі ў твар (хоць ня кожнаму яна дазволіць сябе разглядаць). Аднак знайшоўся чэсны, ня схібіў, ня змусіў народ блукаць у цемры, стаў на чале і павёў... Так і вядзі і не круці галавою, наш да Майсея падобны лідэр! Ты вызваліў свой народ ад дарэмных пакутаў пошуку і даў самае каштоўнае — вольны час. Таму што ў народа, як у салдата, павінен быць час для асабістых патрэбаў, або пэрыяд грамадзянскай рэляксацыі. Галоўнае, не перашкаджаць народнай плыні, якая сама змые падазроныя шлакі грамадзтва.

Хіба ня дурні бальшавікі? Яшчэ б сто гадоў кіравалі, каб так балюча не пакрыўдзілі народ сваёю антыалькагольнай кампаніяй. Гэта як вадалазу на шланг наступіць, тут любы заёрзае... Вядома, людзям прыйшлося перабудавацца, і плакала бальшавіцкая ўлада.

Больш памылак ня будзе, мы пойдзем у фарватары народнай волі. Адныя «стаканчики» чаго вартыя! Ня трэба дзяліць на трох, піць з гарла, лягчэй хаваць у кішэню, нельга разьбіць галаву, карацей, сапраўдны шэдэўр волевыяўленьня. А якія карысныя, — ціха катаюцца, і дзіця ніколі не параніць нагі, толькі дзеля забавы можа наступіць, малечы палюбілі гуляць гэтымі празрыстымі формачкамі ў пяску, бабулькі сеюць рассаду, у сталовых насыпаюць соль... Але трэба ісьці далей, стагнацыя недапушчальная. Простыя словы Галоўнага пра тое, што нашаму чалавеку для жыцьця патрэбны толькі шматок сала і чарка гарэлкі, блізкія і зразумелыя кожнаму. І гэта ня лёзунг, не пусты заклік. Лепшая частка насельніцтва сваім розумам дайшла да гэтага, але ворагі робяць выгляд, што нічога незвычайнага не адбылося: нібыта Галоўны пажартаваў або ня тое меў на думцы. Сам бачыў, як міліцыянты, замест таго, каб выконваць свой непасрэдны абавязак — ганяць мітынгоўшчыкаў, пікетчыкаў ды іншых пазадкаў, — валаклі простага рабацягу, які толькі прытрымліваўся ўказаньня Галоўнага і прыняў сваю порцыю.

Відаць, надышоў час карэнных пераменаў, трэба мабілізаваць усе сілы. Сказана кожнаму прыняць шклянку, дык выканай свой грамадзянскі абавязак, а ўлада, замест таго, каб прапіваць народную гарэлку, забясьпеч выкананьне. Зразумела, просты чалавек гэта зробіць без усялякага прымусу, на покліч сэрца. Але каб пазьбегнуць непаразуменьняў, на наступным рэфэрэндуме трэба ўсенародна вырашыць пытаньне: «Ці згодныя Вы, што пасьля 17-ці (у працоўныя дні) кожны здаровы грамадзянін павінен знаходзіцца ў нецьвярозым стане?» (неабходна прадугледзець асобныя дозы для жанчын, разьмінацчныя для падлеткаў і г.д.). А тады хай міліцыя разьбіраецца зь цьвярозымі: іх лёгка пазнаць па роўнай паходцы ці па незадаволеным выразе на твары, яны на месцы будуць выпіваць «штрафную». Канечне, знойдуцца спрытнюгі, пад нашых пачнуць касіць, але гэтых будзем вылоўліваць з дапамогаю тэхнічных сродкаў і зьмяшчаць ва ўстановы, дзе кваліфікаваныя кадры стануць выпрацоўваць у іх простыя чалавечыя звычкі. Праблема зь мітынгамі вырашыцца аўтаматычна, яны ня тое што па праспэкце прайсьці — газэту прачытаць ня змогуць. Дзеля пэўнасьці ў некаторых установах, дзе вялікая рызыка знаходжаньня ненадзейных элемэнтаў (напрыклад, у некаторых інстытутах АН), у абавязковым парадку напрыканцы працоўнага дня выдзяліць час прыёму неабходнай «акадэмічнай» дозы, а ўжо пасьля іх можна выпускаць да людзей.

Новая алькагольная палітыка (або Н.А.П.) спраўдзіць адвечную мару. Зь якім уздымам людзі возьмуцца за яе рэалізацыю! Добраахвотныя народныя дружыны і спэцпадразьдзяленьні дзяржаўнай бясьпекі забясьпечаць кантроль па ўсёй тэрыторыі і ў калідорах улады. Народныя дружыны «Белая Русь», 5-я Сталічная і 48-я Руская бліскучымі рэйдамі цалкам вынішчаць цьвярозую заразу.

Даўно высьпела неабходнасьць новай культуры. Толькі гарэлка робіць жыцьцё насычаным і рознакаляровым. Што за радасьць, калі ў футбол гуляюць цьвярозыя, няхай прымуць спартовую дозу, і трыбуны (таксама належным чынам падрыхтаваныя) ашалеюць. Будзе значна цікавей, калі спрынтэры пачнуць блытаць бегавыя дарожкі, а шахматныя коні — выскокваць з-пад рукі. Нам неабходны адаптаваны народны спорт. Будзе жаданьне — алімпіяду сваю наладзім!

Кожны спэцыяліст павінен набрацца народнага духу. Калі ты народны артыст, то перад спэктаклем прымі абавязковую чарку, твая творчасьць (прыстасаваная да народнай ці славянскай тэматыкі) адразу стане блізкая і зразумелая. Гэта тычыцца іншых народных — пісьменьнікаў, прэзыдэнтаў, дэпутатаў і г.д. Большасьць зь іх ужо пасьпяхова прайшла тэст на народнасьць і добра ведае, чым дыхае нашае грамадзтва: бо каб захаваць каштоўны анатамічны прэпарат, не абысьціся без фармаліну, таксама і рэліктавыя грамадзкія супольнасьці зьнікнуць без алькаголю — найлепшага каталізатара душы і асноўнага кампанэнту нашага экалягічнага асяродзьдзя.

**Сяржук Блізна**

# МЭМАРАНДУМ

*аб грамадзянстве Беларускай Народнай Рэспублікі*

Мінула шэсьць гадоў, як няўмольная хада гісторыі зьнішчыла старыя дзяржаўныя арганізмы, даўшы месца новым незалежным краінам. Новыя дзяржавы — нашы суседзі Латвія, Літва, Польшча, Расея і Украіна — ужо зьведалі смак свабоды, прыкметы новай эканамічнай стабілізацыі і адчуваньне пэрспэктывы. Зазнаючы пэўныя цяжкасьці, яны адбудоўваюць свае нацыянальныя дамы.

Тым часам беларускае грамадзтва, ня маючы пэўных дзяржаватворчых арыентыраў, ужо сёмы год стаіць на месцы або спрабуе насуперак гістарычнай лёгіцы вярнуцца ў мінулы час. Гэта прывяло да ўмацаваньня аўтарытарызму, эканамічнага застою, зьбядненьня насельніцтва.

У адрозьненьне ад суседзяў, Рэспубліка Беларусь сама пазбавіла сябе дзяржаўнае пераемнасьці і апынулася па-за гістарычнай пэрспэктывай.

У такой сытуацыі мы зноў зьвяртаемся да ідэі пераемнасьці і шукаем таго палітычнага, маральнага і культурна-цывілізацыйнага апірышча, якое б акумулявала ў сабе пазытыўны патэнцыял грамадзтва і мацавала надзею на лепшую будучыню. Разам з тым яно мусіла б выклікаць чым найменш сумневаў і супярэчнасьцяў — партыйных, сацыяльных, этнічных, рэлігійных, пабытовых.

Такім апірышчам нам бачыцца ідэя Беларускае Народнае Рэспублікі — нашага натуральнага дзяржаўнага ідэалу.

Наш Дом — БНР — нам калісьці так і не далі дабудаваць, прымушаючы жыць у псэўдадзяржаўных утварэньнях. Але ўсе гэтыя фальшывыя «дамы» рассыпаліся пад ветрам гісторыі — ССРБ, ЛітБел, БССР пакінулі сьвет, не пакінуўшы нашчадкаў. Не выглядае трывалаю й сёньняшняя дзяржава — Рэспубліка Беларусь — неадназорва дэкляраваліся пляны ўліць яе то ў Расею, то ў рэанімаваны СССР. Гэткая нетрывалаьсць РБ пазбаўляе яе грамадзянаў пэрспэктывы разьвіцьця.

Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 году, засталася жыць як ідэя натуральнага дому для ўсіх, хто жыве на нашай зямлі. За ідэю гэтую яе прыхільнікі памiралі на франтох і ў турмах розных дзяржаваў, яе хавалі ў сэрцах у самой Беларусі і дбайна захоўвалі на выгнаньні. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі працягвае сваю дзейнасьць, захоўваючы пераемнасьць незалежнай беларускай дзяржаўнасьці. На сёньняшні дзень гэта адзінае сярод усіх эўрапейскіх краінаў эміграцыйнае дзяржаўнае прадстаўніцтва, якое не перадало сваіх паўнамоцтваў ураду на Бацькаўшчыне — ня маючы гарантыяў захаваньня РБ як незалежнай дзяржавы.

БНР — адзіная дзяржаўная ідэя, якая й дагэтуль ня страціла сваёй жыцьцёвай сілы ды мае сваіх рэальных і патэнцыяльных прыхільнікаў, змагароў і спадкаемцаў.

Ідэя БНР — вышэйшая за партыйныя, сацыяльныя, этнічныя й рэлігійныя супярэчнасьці. Яна ня ёсьць ініцыятывай або манаполіяй ніякай пааcобнай палітычнай, сацыяльнай, этнічнай групы. Яна належыць усім, хто падзяляе яе ідэалы.

Яе ідэалы, абвешчаныя ў трох Устаўных Граматах 1918 году, гэткія:

— дэмакратыя;

— нацыянальная дзяржаўнасьць (кожны народ найлепей і найкарысьней для сябе разьвіваецца ў рамках сваёй нацыянальнай дзяржавы);

— натуральнасьць беларускай культуры (Беларусь — адзіная ў сьвеце мэтраполія гэтай культуры, абавязак любога народу — захоўваць унікальнасьць сваёй культуры й мовы дзеля захаваньня цэльнасьці сусьветнай цывілізацыі);

— прыярытэтнасьць беларускай мовы (у сілу гістарычных абставінаў, беларуская мова патрабуе дадатковай падтрымкі, іншыя мовы, маючы поўную свабоду функцыянаваньня ў грамадзтве, не павінны замяняць яе ў пэўных ключавых функцыях — найперш у галіне культуры, асьветы і ўрадаваньня);

— далучанасьць да рэгіянальнай, эўрапейскай і сусьветнай цывілізацыі (Беларусь — Эўропа — сусьвет);

— нутраная й вонкавая цярпімасьць і прыязнасьць (мы адна з рэдкіх краінаў, якая дагэтуль не зазнала ні этнічных, ні рэлігійных канфліктаў).

Ідэя БНР несумяшчальная з гэткімі зьявамі, як таталітарызм (задушэньне дэмакратыі, правоў і свабодаў чалавека); ксэнафобія і расізм (этнічная нецярпімасьць, супрацьпастаўленьне людзей паводле расавай і этнічнай прыналежнасьці, напр., прапаганда «славянскага адзінства»); каляніяльнае мысьленьне (вера ў тое, што ратунак грамадзтву й індывіду можа прынесьці нейкі правадыр або замежная дзяржава; адмова самастойна вырашаць свой лёс і браць на сябе грамадзянскую адказнасьць); самазьнявага (прыніжэньне нацыянальнай годнасьці беларусаў, адмаўленьне іхнага права на сваю дзяржаву; зьнявага культуры і мовы).

Грамадзяне БНР выбіраюць сваёю будучыняй незалежную й дэмакратычную Беларускую Дзяржаву.

Кожны, хто з асэнсаваньнем уласнай адказнасьці й абавязку гатовы адкрыта выявіць сваю далучанасьць да ідэалаў БНР, мае права стацца **ГРАМАДЗЯНІНАМ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.**

Грамадзянства БНР — акрэсьленае, адказнае, надпартыйнае і ўнівэрсальнае. Цяперашнія лініі падзелу грамадзтва —часткoвыя й прыватныя.

Акцыя пашырэньня грамадзянства БНР — гэта не гульня ў фантомы і ня вузкае прынагоднае палітычнае мерапрыемства. Гэта вызначэньне трывалых арыентыраў дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі і магчымасьць для ўсіх яе жыхароў зрабіць свой маральны й грамадзянскі выбар.

*Вінцук Вячорка,*
*Сяргей Дубавец,*
*Сяржук Сокалаў-Воюш,*
*Сяргей Шупа,*

*— грамадзяне БНР на моцы пісьмовых заяваў, пададзеных у ліпені 1997 году ў Раду БНР, і зацьверджаных ёю.*

*Вільня-Прага-Менск*
*6 ліпеня 1997 – 1 сакавіка 1998*

# Матор! Дубаль два...

***25 сакавіка споўніцца 80 гадоў з дня абвяшчэньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі***

Працяг са старонкі 1.

продкамі, а быццам перабывае невядома кім адведзены тэрмін. Таму з году ў год не зьмяняецца нічога.

Страчаная пераемнасьць абярнулася страчанаю пэрспэктывай. Сучасны палітычны рэжым за тры гады панаваньня так і не прапанаваў народу яснага ўяўленьня пра заўтрашні дзень. Уся дзейнасьць у гэтым накірунку зьвялася да вяртаньня бээсэсэраўскіх шаблёнаў — сымболікі, грмадзкай і культурнай герархіі, прыярытэту ўсяго расейскага над беларускім. Такая мадэль «рэанімаванае» БССР выклікала раскол у нашым грамадзтве і прывяла да палітычнае ізаляцы краіны паміж суседзямі і ўсім цывілізаваным сьветам.

Беларусь ня ўпісваецца ў геапалітычны расклад рэгіёну і не прыймаецца разьвітымі краінамі не з-за папулісцкага аўтарытарызму А.Лукашэнкі (такіх «дыктатараў» у сьвеце хапае) і нават не з-за камандавай эканомікі (тут таксама, як бачым, супрацоўніцтва магчымае). Беларусь не прымаюць менавіта з-за яе нацыянальнага самаедства. Аксыяматычныя ў краінах-суседзях паняцьці пра нацыянальную годнасьць, любоў да роднае мовы, шанаваньне ўласнай гісторыі і сьвятыняў у нас патрабуюць бясконцага доказваньня і абвяргаюцца на кожным кроку. Паступова наша краіна безь пераемнасьці ператвараецца ў карабель-прывід, «лятучы галяндзец» на эўрапейскіх хвалях. Ніхто ня ведае, адкуль ён і якую нясе небясьпеку. Адно бачна, што ён нікуды не кіруе і, нясомы ветрам, паступова прыходзіць у заняпад.

У такіх умовах расколатае беларускае грамадзтва колецца далей на ўсё драбнейшыя



аскепкі, усё больш варожа настроеныя паміж сабою. Бедныя і багатыя, беларускамоўныя і русіфікатары, канфармісты і апазыцыя, — ня бачачы пэрспэктывы, увесь сэнс свае дзейнасьці зьмяшчаюць у сам раскол. Ніводная з прапанаваных ідэяў не аб'яднала народ, не пасяліла грамадзянскага міру. Між тым, досьвед усіх без выключэньня краінаў рэгіёну паказвае, што такая ідэя ёсьць, і яна яшчэ не скарыстаная намі.

Ізноў, калі працягваць аналёгію зь іншымі краінамі да ўласнае дзяржавы, якую ў нас адабраў камунізм і якую сёньня мы мусім адбудоўваць, то прыйдзем мы да Беларускай Народнай Рэспублікі. А ня прыйдзем, дык у дні, калі Расея з пашанаю перахоўвае свайго апошняга цара, мы можам пачувацца адно як Северо-Западный край зь неадчэпнаю чыста мясьнікоўскаю мараю пра аднаўлены СССР.

Трэці істотны момант, які стварае ідэя БНР зь яе грамадзянствам — гэта, калі хочаце, маральны камфорт. Чалавек ня толькі пачаў думаць у катэгорыях разьвітага сьвету і ў гістарычнай пэрспэктыве ўласнае нацыі, але замацаваў за сабою гэтыя нованабытыя каштоўнасьці фармальна. На сёньняшнім этапе мы яшчэ ня можам казаць пра працэдуру грамадзянства, гэта хутчэй абрад. Але ў параўнаньні з ранейшымі часамі гэта вялікі зрух наперад.

Праз фармальную далучанасьць чалавек найперш сам сабе сьведчыць пра тое, што ўзяў на сябе адказнасьць. А як мы ведаем зь філязофіі, чым больш ён за сябе адказвае (ён, а ня хтосьці за яго), тым больш ён свабодны.

Зь цягам часу (і, бадай, вельмі хутка) інстытут грамадзянства БНР, папулярнасьці якога нічога не замінае, разгорнецца на поўную моц, стане рэальнай грамадзкай сілай, якая размесьціцца па-над партыйнымі, сацыяльнымі, этнічнымі падзеламі. Гэтак паўстане самое беларускае грамадзтва — адказнае і прагнае свабоды.

Вось чаму ўжо сёлета перад 80-мі ўгодкамі БНР болей думаецца не пра колішняе, як думалася ў папярэдня гады, а пра рэальныя справы і зьмены заўтра.

... 80 гадоў таму п'яны бальшавіцкі камісар Крывашэін уварваўся з сваімі салдатамі на Ўсебеларускі кангрэс. Так пачалося супрацьстаяньне, якое ў Расеі падзяліла белых і чырвоных, у нас — бел-чырвона-белых і чырвона-зялёных. Як і тады, з гэтага боку, як правіла, — адукаваныя тутэйшыя, сяляне і прафэсура, мірныя людзі. Як і тады, з таго боку — невукі і наеждныя гэбісты-камісары.

Нічога не зьмянілася ў Беларусі пасьля такога, здавалася б усезьмяняльнага стагодзьдзя. Засталіся ранейшыя людзі і ранейшы канфлікт. Быццам у 18-м нехта націснуў на стоп-кадар. Быццам у 91-м той нехта зьняў палец з кнопкі. Карцінка абнавілася — строі, мініка, інтэр'ер. Але людзі тыя самыя. Сцэна разгону Ўсебеларускага кангрэсу п'яным камісарам Крывашэіным... Дубаль два.

**Сяргей Паўлоўскі**

# Вечар абаяльнага хулігана

Тое, што пачынаецца з хаосу, не заўсёды павінна хаосам і скончыцца. Іншым разам здараюцца выключэньні, экспромты. Сустрэчы, поціскі рук, размовы праносяць больш радасьці й надаўжэй застаюцца ў памяці, калі яны не былі заплянаваныя.

Сыйшоўшы аднаго памятнага разу з Купалаўскага музэю ў дом-музэй Анатоля Сыса, я ніяк ня мог прадбачыць, што далей мая дарожка дацягнецца да Коласавай «хаты». На разьвітаньне Сыс аднекуль выцягнуў вялізны фаліянцішча, які аказаўся акуратным нотным сшыткам нейкага выдатніка 1907 году зь Нясьвіскай сэмінарыі, і абавязаў мяне аднесьці гэтую грунтоўную працу нікому невядомага сэмінарыста ў дом бесьсьмяротнага вучня той самай установы.

— «Вы сябры Сыса?» — асьцярожна запытала дырэктарка, з хваляваньнем прымаючы з нашых рук фаліянт і аглядаючы мяне й Славаміра Адамовіча, які склаў мне кампанію. Нам прапанавалі застацца, паабяцаўшы незабаве вельмі цікавую сустрэчу. І пакуль Славамір вывучаў улёткі часоў другой сусьветнай, знаходзячы ў коласаўскіх радках на тэму «Бі фашыста» сугучнасьць сёньняшняму дню, я добрасумленна экскурсаваўся па былым асабняку ў дарэмным намаганьні адчуць прысутнасьць таго, хто пражыў тут свае апошнія гады. Ці не адзінага вялікага «нашаніўца», які пайшоў з жыцьця сваёй сьмерцю, у сваім доме. Але ці ў сваёй краіне?..

У адрозьненьне ад Купалавага Дому, гэтыя сьцены памяталі голас свайго гаспадара. Што прыўносіць, асабліва калі ты блукаеш па дому адзін, пачуцьцё няёмкасьці няклїканага госьця. Вялізныя пакоі ў заўсёдным паўзмроку шэрых фіранак, перакрытыя забароннымі стужкамі; ампірныя гадзіньнікі, якія дзесяцігодзьдзі ніхто не заводзіў; шыкоўныя фатэлі, да якіх нельга дакрануцца. Даўно ўжо няма таго, хто меў адзінае права запрапанаваць увайсьці ў тыя пакоі. Але, увайдзі туды, усё роўна й блізка не наблізішся да той, безумоўна, трагічнай атмасфэры, якая панавала ў душы ягонага Жыхара.

А дом патроху запаўняўся галасамі новых гасьцей. Паважныя навукоўцы, журналісты, бестурботнае студэнцтва. У гушчы публікі я пазнаў Сакрата Яновіча. Пісьменьніка, якога можна сьмела чытаць і нясьмела перачытваць. Аказалася, зусім нечакана для сябе, мы са Славамірам трапілі на прэзэнтацыю ягонай новай кніжкі, што выйшла ў «Мастацкай літаратуры». «Сцяна» — прачытаў я на вокладцы, «Сьцяна» — за вокладкаю.

Няма больш імпрэзы тужлівейшае на сьвеце, чым сустрэча зь беларускім пісьменьнікам. Упэўнены, менавіта й толькі такія думкі маглі валодаць студэнцкай (што прыемна, найбольш шматлікай) часткай нашае аўдыторыі. Ва ўсялякім выпадку, шаноўныя літаратуразнаўцы прафэсары Адам Мальдзіс і Уладзімер Гніламёдаў хвілінаў з сорак намагаліся давесьці менавіта гэтую гіпотэзу, распавядаючы пра ролю Яновічава слова. Мне ўзгадалася неўміручае шалкевіцкае «І пры паваленым Яновічавым плоце мы станем ціханька і будзем гаварыць».

Стаміўшыся чакаць выступу героя дня, я вырашыў зазірнуць у ягоную кнігу. Сама назва якой правакавала на пэўныя пытаньні. Але дата напісаньня, 1977 год, іх плаўна здымала. Прачытаўшы наўздагад выбраны абзац, я трохі зьбянтэжыўся. Не ад колькасьці супадзеньняў. Мне трапілася наступнае: «Усё прышылі яму. Уляпілі Сумленевічу дзіўна нямнога, гадоў нешта паўтара. Нечуванае: без грашовай рэкампэнсацыі пацярпеламу!»

Нарэшце мы дачакаліся слова спадара Сакрата. Першае, чым ён парадаваў чытачоў — сказаў прыкладна наступнае: «Калі вы будзеце чытаць мною напісанае й вам нешта не спадабасцца, то ведайце — мне ўсё роўна. Мяне гэта мала цікавіць, паколькі я пішу не для вас, а для сябе. Аднак калі мая лябараторыя цікавая й яшчэ некаму, мне безумоўна прыемна». Пасьля доўгіх разваг аб ролі і г.д. такое пяшчотнае стаўленьне да чытача многіх разьвесяліла. І прымусіла прагна чакаць новых шчыраваньняў.

Ён не казаў нечага новага. Але ўсім хацелася слухаць. Настолькі гэта артыстычна, раскаваную несавецкаю моваю, рабіў былы пажарнік, баксёр, электрык. Сёньняшні першы аўтарытэт польскай беларушчыны. Ён казаў пра тое, што ў цяперашнім становішчы Беларусі нічога дзіўнага няма, таму што беларускі народ бедны. А ў беднага народа (беднага ў прамым, грашовым сэнсе) ня можа быць багатай культуры. Пра тое, што талент —гэта ўсяго



# Таямнічая Туркаль

Колькі часу таму, гледзячы тэлетрансьляцыю матча Лігі чэмпіёнаў UEFA з Італіі, я заўважыў у кадры над трыбунамі транспарант з надпісам: «ROSSONE»... Я ня ведаў перакладу гэтага слова з італьянскае мовы, аднак гучаньнем яно нагадвае мне назоў беларускага мястэчка Рассоны. Нехта, мабыць, скажа — гэта простае супадзеньне. Можа й так. Аднак, шмат чаго іншага ня можа быць простым супадзеньнем.

На гербе беларускага гораду Сянно намаляваныя дзьве касы. Назоў гэтага паселішча выводзяць ад слова «сена». Тым ня менш, разглядаючы аднойчы мапу Эстоніі, я знайшоў там вёску з падобнай назвай — Сянна. Ці ёсьць нешта роднаснае ў паходжаньні гэтых назоваў? Цалкам верагодна. У Беларусі і Эстоніі ёсьць шмат падобных тапонімаў: Волма — Валма, Саарэ, Сара, Сар'я і г.д. На карысьць вэрсіі аб фіна-вугорскім паходжаньні назвы нашага Сянна сьведчыць наяўнасьць у ваколіцах гораду возера пад назвай Сара.

Сталіца Чэхіі — Praha, а на эстонскім баку Чудзкага возера знаходзіцца паселішча Праага. У свой час, гартаючы «Эстонска-латыскі слоўнік», я знайшоў тлумачэньне слова «praaga». Сэнс яго просты — «брага». Дзіўнага нічога няма. Чэская Прага знаходзіцца на рацэ Влтава. Праага эстонская на ручаіне, пры сутоцы з возерам. І там, і тут магло быць вільготнае месца (балота), якое вобразна можна назваць «брагай». Зрэшты, у Беларусі даволі аналёгіяў з назвай Влтава. Чэскі «варыянт», мне падаецца, вытворны ад Олтава. На беларускім Палесьсі знаходзяцца вёска і возера Олтуш, у Мёрскім раёне ёсьць рэчка Волта, на Глыбоччыне рака Авута (варыянт Олта), дзе сэнс гэтых назваў і ёсьць менавіта — балотная рэчка (возера). Ня дзіва, што ў Беларусі таксама ёсьць свая «прага» — горад Брагін на рацэ Брагінка.

Назоў мястэчка Сар'я (Верхнядзьвінскі р-н) можна вытлумачыць ад эстонскага слова «sarja» — чарада (расейская — «вереница»). Магчыма, хаты ў вёсцы стаялі «чарадой», альбо гэта нейкім чынам зьвязана з асаблівасьцямі тутэйшага ляндшафту... Знайшоў я ў слоўніку і слова «ula» (жыць па сваёй волі, сваім разуменьнем). На Віцебшчыне ёсьць мястэчка Ула і рэчка з аднайменным назовам.

Ёсьць у Эстоніі рака Ягала. У некаторых фіна-вугорскіх мовах слова «яг» — «лес». Згадаем тут, што і Баба-Яга жыла ў лесе («лясная баба») таксама. Быў у беларускай гісторыі князь Ягайла...

На памежжы Глыбоччыны і Докшыцкага раёну знаходзіцца возера Сэрвач. Вялікае, плыткае возера з рудой вадою. Можна адысьціся ад берага ўглыб не адну сотню мэтраў, і будзе ня больш чым «па шыю». Ногі грузнуць па калена ў глеі, спатыкаесься далёка ад берага аб нейкія карчы, гнілыя бёрны. Возьмеш у рукі жменю глею — труха з драўніны і кары, адным словам — торф. Таму і вада ў возеры рудая. Мог тут тысячагодзьдзі таму расьці лес, які ў выніку ўсадкі ляндшафту пасьля таяньня ледавіка апынуўся ўжо ў возеры.

Сэрвач (як, зрэшты, і Нарач) назва фіна-вугорскага паходжаньня. На карысьць гэтай думкі гаворыць такі факт: на Поўначы Расеі ў Пермскай вобласьці ёсьць рака Сэрва. Комі-пярмяцкая дасьледчыца А.Крывашчокава-Гантман падзяляе назву на часткі: «сэр» — пратока, доплыў, балотная рэчка і «ва» — рака. Аднайменная рэчка Сэрвач, якая выцякае з гэтага возера (доплыў Вяльлі), сапраўды цячэ на сваім шляху па балоцістай мясцовасьці. Аднак ёсьць яшчэ слова «сёрва» — разбаўленае хатняе піва. Для характарыстыкі балотнай рэчкі ці возера зь цёмнай вадой гэта стасуецца. Ёсьць падставы меркаваць, што першапачатковы назоў возера быў Сэрвадзь (кшталту іншых беларускіх гідронімаў Моўчадзь, Ізгледзь), дзе «адзь» — даліна. У расейскай мове «адзь» у комі гідронімаў перайшло ў «ч» (Зорыч), што паказвае на непракавечнасьць нашага «дз» (дзьверы), яно нам дасталося ад пермскіх продкаў, якія тут жылі шмат вякоў таму.

З гэтых самых ваколіцаў пачынаецца рака Маргва, на ёй знаходзіцца старажытнае глыбоцкае мястэчка Мосар. Абедзьве назвы — таксама фіна-вугорскага паходжаньня. «Морга» — сук, «ва» — рака. «Сук» — назва вобразная, мае сэнс — доплыў. Як ад дрэва адыходзяць сукі, так да вялікай ракі цякуць доплывы (нібы сукі ў дрэве). Пермскай з паходжаньня зьяўляецца і назва Мосар, што на мове комі ёсьць — «лагчына», «лог» і яна можа быць роднаснай паходжаньнем да назвы палескага гораду Мазыра.

Клясычная схема: тут жылі спачатку балты, потым прыйшлі славяне, якія асымілявалі іх, і такім чынам утварыўся беларускі этнас — можа стацца занадта простай і прымітыўнай. У часы вялікага перасяленьня народаў на тэрыторыі нашай краіны маглі жыць ня толькі балты, фіна-вугорскія і славянскія народы, але і скандынаўскія, нават іншыя, аб існаваньні якіх мы можам толькі здагадвацца...

***

Улетку 1995 году, пад час экспэдыцыі па Глыбоччыне, беларускі археоляг Людміла Дучыц на адным зь цывінтарных камянёў знайшла выяву невядомай да сёньняшняга часу формы крыжа. Чатыры геамэтрычных, шасьцікутных фігуры ў выглядзе літары «Т» перакрыжоўваюцца паміж сабою. У цэнтры ўтворанага крыжа, на месцы скрыжаваньня лініяў, вельмі выразна бачная выява свастыкі.

Хто прынес у наш край свастыку? Фіна-вугорцы? Балты? Славяне? Можа скандынавы? Усе яны пакінулі на Глыбоччыне свой адметны сьлед у назвах рэк і азёраў, паселішчаў, курганных выспаў, гарадзішчаў, у чалавечых тварах, прозьвішчах, мове і звычках тубыльцаў.

Свастыка на мове санскрыт ёсьць крыж з загнутымі ў просты кут канцамі. Яна была адным з раньніх арнамэнтальных матываў, якія сустракаліся на творах мастацтва старажытных культураў Эўропы, Азіі (у тым ліку Старажытнай Індыі), радзей Афрыкі і Амэрыкі. У антычныя часы свастыка адлюстроўвалася на старажытна-грэцкіх вазах, грэцкіх і сіцылійскіх манэтах, пазьней — на многіх помніках эўрапейскага сярэднявечнага і народнага мастацтва.

Сымболіка свастыкі невядомая, у ёй бачаць выяву сонца і больш дробную часьціну сонца, паводле ўяленьняў старажытных — агонь альбо перакрыжаваныя маланкі. Іншыя ж свастыку называюць гамаваным крыжам, у якім спалучаныя чатыры грэцкія літары «Г» (гама), якія зыходзяць з аднаго пункту.

Я сяджу ў пакоі зь вядомым у Глыбокім лекарам псыхафізіёлягам Валерыем Тарыкавым. Ён робіць цікавыя палітычныя прагнозы, большасьць зь якіх, на дзіва, збываецца. Ён сьцьвярджае, што яму ад прадзедаў дадзены адмысловы дар ведаць тое, чаго ніхто ня ведае. Валера ведае, кім ён быў і дзе жыў у мінулых жыцьцях.

Дзялюся ўражаньнямі аб сэнсацыйнай знаходцы, малюю эскіз крыжа са свасты-



толькі здольнасьць да працы. Безь якое нават нельга таленавіта сьпіцца. Пра тое, што надзеленасьць місіяй дае неверагодную здольнасьць выжываньня ў самых змрочных умовах. І шмат яшчэ вядомых ісьцінаў, якія




іншым разам карысна паслухаць «выпадкам ад Сакрата». Лепш даходзяць. А некаторыя ягоныя пасажы абяззбройвалі сваёю мудрасьцю й трапнасьцю. Напрыклад, я цалкам згодны з маэстра, што паэт павінен мець агнёвыя вочы й падабацца бабам, а графаманаў трэба расстрэльваць...

Пасьля былі яшчэ гарбата, печыва, цукеркі. Усе, хто хацеў, атрымалі аўтографы. Цудоўны вечар абаяльнага шасьцідзесяцідвухгадовага хулігана скончаўся прыязнымі ўсьмешкамі й чарговы раз абвергнутаю думкай, што «беларускае» — сынонім «беднага» й «сумнага». Але за вокнамі шыкоўнага, падкрэсьлена багатага асабняка безнадзейна цямнела. Якая ўсё ж мілая штука — экспромт, думаў я, пакідаючы музэй. Калі-б не...

**Зьміцер Бартосік**

# Сум за «Сцяной»

Я веру свайму прыяцелю-літаратару Міцю, калі ён кажа, што мала чытае. Гэтаксама, як веру Сакрату Яновічу, калі ён кажа, што яго не цікавіць, ці хто чытае ягоныя творы. Але паміж двума беларускімі літаратарамі існуе яшчэ адна паралель. Калі ўжо Міця зьбярэцца што-небудзь прачытаць, ён на тэкст не забудзецца ніколі. Гэтаксама, як Яновіч не забываецца на водгукі пра сваю творчасьць. А яшчэ і Міця і Яновіч любяць сум. Зьбег гэтых акалічнасьцяў адбыўся на сустрэчы-прэзэнтацыі зборніка твораў Сакрата Яновіча «Сцяна».

Вобраз якой-кольвек перагароджы найбольш моцна папулярызаваў Ж.-П.Сартр: зборнікам апавяданьняў «Мур». Мур ёсьць чымсьці вялікім, грунтоўным. Мур (кшталту славутага Кітайскага) адгароджвае вялікія прасторы. А вось, напрыклад, паркан «Краіны хлудаў» Алега Мінкіна зьмяншае ўсё да драбностак. Што да сьцяны, яна не адгароджвае, а разьдзяляе.

Сакрат Яновіч валодае адмысловай здатнасьцю «праходзіць скрозь сьцены». Якім чынам? Тытульны ліст зборніка беластоцкага пісьменьніка ўтрымлівае надпіс «Сьцяна», вокладка — «Сцяна». Паміж дзьвюма гэтымі словамі — бездань, якую зьнішчыш хіба што разам з мовай.

Магчыма, гэтую тэзу можна «закінуць» усім беластоцкім літаратарам. Прынамсі, тым, хто апрацоўвае глебу «Нівы». Я маю на ўвазе ня толькі трываласьць беластоцкай газэты перад наступам хады часу. Газэта за апошнія дваццаць гадоў не зьмянілася ні на каліва, ані знутры, ані звонку. Я магу ўявіць, што прымушала «загранічную» неэсэсэраўскую «Ніву» выходзіць наркамаўкай у першыя гады заснаваньня. Хутчэй за ўсё, гэта былі «даўгія лапы КГБ». Але ж сёньня...

Сакрат Яновіч прызнаўся, што толькі за паўгадзіны да прэзэнтацыі «ўбачыў мяккія знакі» за наркамаўскай вокладкай. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» прыпаднесла свайго кшталту сюрпрыз аўтару. Магчыма, «закід» наконт «здатнасьці праходзіць скрозь сьцены» губляе сваю актуальнасьць? І ўсе пытаньні трэба скіраваць да выдавецтва, якое ня так даўна «згубіла» рукапіс кнігі Васіля Быкава «Сьцяна», апошнія з шэрагу «згубаў» —кнігі Геніюш, Арлова, кніга перакладаў «Песьні пра зубра»...

Большасьць твораў новай «Сцяны» выйшла ў зборніку «Доўгая сьмерць Крынак» на пачатку 90-х у Польшчы. Але аўтар задоўга да таго перадаў рукапіс у выдавецтва «Мастацкая літаратура». І вось, неспадзявана, рукапіс спатрэбіўся, каб «запоўніць брэш» у плянах славутага выдавецтва.

Мой прыяцель Міця любіць творчасьць Сакрата Яновіча. Я разумею Міцю: «нардычны» адшліфаваны стыль, эстэтыка, кампазыцыйная будова, мудрасьць. Зноў жа — сум. Па чым сумуе Міця? Пра гэта ведае ён сам. Яшчэ адна паралель з творчасьцю беластоцкага пісьменьніка. Творы Сакрата Яновіча вызначаюцца невытлумачальным сумам аб цалкам зразумелай зьяве — жыцьцё зьмяняецца.

З рознага кшталту казак і фантастычных гісторыяў мы ведаем спосаб праходжаньня скрозь сьцены. Галоўны прынцып — не заўважаць перашкоду. Але рэч у тым, што ў сёньняшняй Беларусі незаўважаць перашкоды можна толькі лежачы дома на канапе, ці жывучы ў якой-небудзь замёрлай вёсцы.

Беларускі Мур, які з аднога боку мае «сьценку», а зь іншага «сценку», ня рухнуў як «жалезная занавеса», ён узмацняецца. Прайсьці скрозь яго можна толькі адным шляхам — «бэрлінскім». Зь якога боку — кожны вырашае сам.

**Севярын Квяткоўскі**



кай. Валеры бярэ аркуш.

— Я магу сказаць, каму прысьвечаны гэты знак.

— Як ты пра гэта даведаесься? — пытаюся я.

— Вельмі проста — празь лічбы! — адказвае ён. — Усё ў Сусьвеце мае свой касьмічны лічбавы код, пачынаючы ад травінкі і сканчаючы вялізным дрэвам. Лічба ёсьць усеабдымным носьбітам інфармацыі, пачатак пачаткаў. Вось жа і ў кампутарах інфармацыя закладзеная ў выглядзе лічбаў... Можна скласьці матэматычную формулу хваробы AIDS і прычынныя сувязі ўзьнікненьня гэтай хваробы. І я такую формулу вылічыў... Акрамя таго, я ведаю ўмовы пабудовы (альбо карты) кожнай мовы, у якой адлегласьці адна мова знаходзіцца ад другой. Вось беларуская мова, напрыклад, больш старажытная, чымся мова расейская. Далёкай прарадзіцелькай нашай мовы я лічу мову народу белуджы з тэрыторыі Аўганістану, адкуль продкі беларусаў «іранскім шляхам» патрапілі ў Эўропу. А мова дакаў ёсьць мовай цывілізацыі атлянтаў, ключом для спазнаньня розуму чалавецтва...

Валеры бярэ мой эскіз, піша аднаму яму вядомую матэматычную формулу.

— Гэтая выява заключае вобраз чалавека, які пазнае. Больш за тое, — сьцьвярджае ён, — гэта жаночы сымбаль, сымбаль маці-каралевы, і паходзіць ён з часоў матрыярхату. Чакай! Пастараюся даведацца больш. Гэта — індывідуальны магічны знак Маці-прыроды. Імя гэтае жанчыны павінна пачынацца на літару «Т» і складацца зь сямі знакаў. Паводле гучаньня яно павінна быць падобным на слова Туркаль. Яна была духоўнай настаўніцай свайго народу, вяшчала ад імя прыроды і для прыроды. Была боскім абліччам свайго народу, духоўным носьбітам, пасярэднікам паміж прыродай і народам. Яна ведала дух свайго народа і ягоныя патрэбы, адкуль прыйшоў і куды йдзе гэты народ, яго далейшы лёс... Жанчына жыла ў 9 ст. да н.э. і пражыла 74 гады. Імя гэтага народа магло быць блізкім да слова «mozosy» альбо «morosy» і было паўночна-заходняй арыентацыі.

Ці жылі тры тысячы гадоў таму «mozosy» — не бяруся сьцьвярджаць. Гісторыкі і археолягі часам прыносяць нам нечаканыя сюрпрызы. Магчыма, зь цягам часу і гэта мы будзем ведаць. Аднак Туркаль... Нягледзячы на фантастычнасьць вэрсіі Валерыя Тарыкава, у ёй ёсьць рацыянальнае зерне, яно настолькі рэальнае, што ў факт існаваньня вылічанай на паперы з дапамогай матэматычных знакаў таямнічай Туркаль не паверыць я ня змог.

У многіх эўрапейскіх мовах у розных варыяцыях прысутнічае слова «тур». У Францыі, напрыклад, ёсьць горад Тур (Tours), у Нарвэгіі жыве вядомы падарожнік Тур Хэердал (Thor Heyerdahi), у Беларусі горад Тураў. Тур быў першым летапісным князем Тураўскага княства. У «Аповесьці мінулых часоў» пад 980 г. паведамлялася, што «... бе бо Рогволод пришел из заморья имяше волость свою Полотьске а Тур Турове от него же и туровци прозвашася...»

У Заходняй Беларусі некалі існавала мястэчка Турмонт (цяпер Турмантас у Летуве), на Полаччыне ёсьць вёска і возера Туроўля, побач рэчка Тураўлянка. Тутэйшыя магнаты Корсакі, якія ў сярэднявеччы валодалі і Глыбокім, мелі маёнтак Туросы. Дзіўлюся, што рэальныя Туросы маюць сугучча з вылічанымі на паперы «mozosy», а наўкола шмат паселішчаў: Восава, Асавец, Асаўцы... Ясная справа, што «тур» ня мае ніякага дачыненьня да жывёлы, бо падобныя тапонімы сустракаюцца і на Поўначы Расеі, дзе тур ніколі ня жыў.

У горадзе Сігулда, пад Рыгай, стаяць тры сярэднявечныя замкі. Гэтыя землі некалі былі беларускай калёніяй і тутэйшыя жыхары ліві (народ фіна-вугорскай групы, блізкі мовай да эстонцаў) плацілі даніну палачанам. Самы прыгожы замак носіць назву Турайда. Ён стаіць на высокай строме ракі Гаўя. Дакладна вядома, што на мове ліваў Турайда — «Боскі Сад». Беларускі ўніяцкі сьвятар Леў Гарошка ў часопісе «Божым шляхам», які выдаваўся на эміграцыі, у 1956 годзе апублікаваў працу «Дахрысьціянская вера нашых продкаў». Там ён, між іншым, піша: «Тур спароднены зь Ярылаю — Бог Сонца, ураджаю і сілы».

Цікава, што менавіта такімі якасьцямі быў надзелены Тор — адзін з галоўных багоў скандынаўскай міталёгіі, бог грому, буры і ўрадлівасьці. Тор — галоўны абаронца багоў і людзей ад веліканаў і страшных пачвараў. Ён уяўляўся рудабародым асілкам, які быў узброены баявым молатам.

Згодна са старажытнай міталёгіяй, казёл быў сьвятарнай жывёлай Тора-Перуна. Бог Тор езьдзіў на фурманцы, якая была запрэжаная дзьвюма казламі. Неверагодным фактам зьяўляецца тое, што Глыбоччына — адзінае месца ў Беларусі, дзе адзначаўся культ казла (альбо барана). Чарапы барана й авечкі сустракаюцца ў курганах з мужчынскімі пахаваньнямі каля вёсак Чарневічы і Залескі. Цікава, што культ барана быў разьвіты ў гэтых мясьцінах амаль да XX ст. І знаходкі чарапоў у курганох хутчэй за ўсё зьвязаныя з гэтым культам, які быў занесены сюды скандынавамі (можа, вікінгамі). Чарапы казла (барана) знаходзяць яшчэ ў гнездаўскіх курганох на Смаленшчыне. Гнездаў быў буйным гандлёвым пунктам, дзе спынялася шмат скандынаваў. У самой жа Скандынавіі ахвярапрыношаньні гэтых жывёлаў — зьява звычайная.

А вось якую інфармацыю падае вядомы глыбачанін Вацлаў Ластоўскі ў часопісе «Крывіч», які ён выдаваў на эміграцыі ў Коўне (1926-27, №12, С.68), аб правядзеньні Дзядоў каля вёскі Рэчкі. Аўтар піша: «У гэтую ноч зьбіраліся старыя сяляне, прыводзілі казла (або барана), распальвалі на цьвінтары вогнішча, рэзалі казла, варылі яго ў капліцы і абрадавымі песьнямі ўладкоўвалі памінальную вячэру...» Паданьні пра казла згадвае і захавальнік Віленскага музэю старажытнасьцяў Ф.Пакроўскі — нібыта казла ноччу бачаць на курганох. На Глыбоччыне можна пачуць і паданьні, што часам на Купальле бачылі белага баранчыка, які праваліўся скрозь зямлю. Ёсьць сьведчаньні, што культ барана сьвяткаваўся на вядомай у тутэйшым краі Варганскай гары, што на паўдарозе ад Глыбокага да Докшыцаў. Нават назоў Варганы нехта імкнецца вытлумачыць як «вар гані». Хоць сам назоў у сапраўднасьці можа мець і іншы сэнс.

Туркаль — боскае аблічча народа «mozosy», пасярэдніца паміж прыродай і народам, верагодна і была пасланьніцай Тура-Тора на зямлі.

Вацлаў Ластоўскі быў ня толькі адным з пачынальнікаў беларускага Адраджэньня, палітыкам і гісторыкам, але і таленавітым пісьменьнікам. У фантастычнай аповесьці «Лябірынты», якая пабачыла сьвет ужо пасьля яго сьмерці ў Мюнхене ў 1956 г., ёсьць спроба прадставіць Пантэон беларускіх багоў. Ён піша: «Як усе багі, Пракавечны Кон меў шмат розных эпітэтаў, якія няведамі прымаліся часам за яго собскія іменьні. Да гэткіх іменьняў ягоных належаць: Прова, Права, Тур. У ваднэй старадаўняй саксонскай крыніцы ёсьць малюнкі стараславянкіх багоў з часоў хрышчэньня славянаў, між імі — рысунак стода з подпісам: «Prono». Гэты рысунак сьведчыць, як хрысьціянскія апосталы таго часу былі прасякнутыя мазаізмам ды бабілёнскімі харубамі і шайтанамі, а як мала ведалі тое, што нішчылі. Бо Кон-Прова-Тур ня меў стодаў: яму прысьвячаліся сьвятыя дубы і гаі. У гэткім месцы агароджаныя, з параю наўсупроцьных варотаў зыходзіліся ў канодныя дні старшыні народу спраўляць суды. У здарэньні, калі каго перасьледавалі, ён мог схавацца ў загароду, хоць бы ён быў ворагам, яго ніхто ня сьмеў крануць: бо права не на перавазе фізычнае сілы, ані на гвалце грунтуецца». Далей В.Ластоўскі піша: «Пракавечны Кон даў права, закон людзям, зьверам, птахам, полазам, рыбам, расьцінам і наагул усяму, што жыве, родзіцца і памірае. Установленыя ім законы вечныя і непарушныя. Галоўнае месца ў нашым краі, дзе складалі яму чэсьць, быў Тураў і мясцовасьць Скрыгалава, недалёка ад Турава, дзе дагэтуль захаваліся рэшткі і так званых цыклёпічных будоўляў у форме велізарных каменных блёкаў. За сымбаль справядлівасьці ў славянаў уважаўся белы бык — тур».

Айцец Леў Гарошка быў больш ляканічным: «Кон — магутны дух, які вызначаў долю для ўсіх, нават для багоў». Як бачым, гэта супадае з уяўленьнем скандынаваў аб богу Тора, які быў «абаронцам багоў і людзей».

Самахоць прыходзіш да высновы, што Кон-Права-Тур так ці йнакш мае дачыненьне да паходжаньня такіх беларускіх словаў: «пераканацъ», «скон», «конадзень», «канец», а таксама «права», «правіла», а міжнародная лексыка ўзбагацілася словамі: «тур», «турнір», якія вызначаюць спаборніцтвы ў сіле, спрыце і хуткасьці.

Мы сёньня змаглі прачыніць дзьверы ў далёкую, дахрысьціянскую мінуўшчыну нашага краю. Аб ёй мы маем куртатае ўяўленьне. Нетрадыцыйным спосабам гэта нам дапамог зрабіць Валеры Тарыкаў.

Колькі гадоў глыбоцкай свастыцы? Яе маглі выбіць на цьвінтарным камяні і сто, і пяцьсот гадоў таму. Гэты сымбаль жыхары глыбоцкіх ваколіцаў маглі пераховваць не адну сотню пакаленьняў, як спадчыну з далёкага мінулага, нават не падазраючы, што некалі яго ім падаравала таямнічая Туркаль.

**Уладзімер Скрабатун**

# «Нам Масква прыслала падкрапленьне»

Уладзімер Арлоў

Герой адной з навэляў знакамітага італьянца Джузэпэ Тамазі ды Лямпэдузы аднойчы сказаў свайму сябру-журналісту: «Ты павінен быў заўважыць, што, бясконца сплёўваючы, я не адкашліваюся. Бо плюю не таму, што хворы, а таму, што здаровы. Я плюю ад агіды да прачытанае лухты».

Сьлінавыя залозы аўтара гэтых радкоў занепакоіліся ў менскай кнігарні, дзе ён зьняў з паліцы шыкоўны фаліянт таго самага, што і трэцяя частка прэзыдэнцкага сьцяга, колеру. Колер тут, што праўда, ні пры чым, ён нават недзе супакойваў. Затое сам гістарычны раман А.Міхайлава «Суворов», выдадзены нейкім «ИПП «Янтарный сказ» з нашай братняй краіны, нараджаў эмоцыі трохі іншае гамы.

Справу сваю «сказители», трэба адзначыць, ведаюць і ад недахопу сродкаў, у адрозьненьне ад некаторых айчынных выдавецтваў, па ўсім відаць, не пакутуюць. Раскошны пераплёт зь ціснутым золатам двухгаловым падстаўніком расейскае крылатае фаўны. Выдатная папера. Альбомны фармат. Каляровая ілюстрацыя амаль на кожнай старонцы. На форзацы — зноў жа каляровая «Карта походовъ А.В.Суворова».

Жыў бы аўтар гэтых радкоў дзе-небудзь у Сызрані ці Тамбове — душа б цешылася, як кацяня на печы. Але ў чалавека тутэйшага, які, апрача таго, яшчэ штосьці, на сваю бяду, з роднай гісторыі памятае, узьнік нейкі лёгенькі дыскамфорцік. Як быццам тая расейская птушка з адной учэпістай лапы дзяржаўны скіпэтар выпусьціла і гэтак далікатна кіпцікамі тваю душу прыгалубіла.

Вось, напрыклад, згаданая ўжо карта. Маштаб. Геаграфічныя шырата і даўгата. Зь любасьцю захаваная паўсюль літара «ъ». «Саратовъ, Камышинъ, Симбирскъ...» Ну, тут усё ясна — душыў незабыўны Аляксандар Васільевіч паўстаньне Пугачова. Клопат, можна сказаць, сямейны. Гэта на правым флянзе. А на левым — «Туринъ, Миланъ, Мюнхенъ, Верона»... Напэўна, хадзіў туды са сваімі арламі вызваляць кагосьці ад цяжкага прыгнёту. Альбо падарожнічаў па мясцінах Рамэо і Джульеты. Але вока чалавека тутэйшага спыняецца перадусім на назвах зь дзяцінства знаёмых — Віцебск, Менск, Наваградак, Слонім, Пінск, Берасьце... І карціць яму, гэтаму чалавеку, даведацца: што там за стрэлачкі такія намаляваныя? Якія гэта побач зь імі бітвы шабелькамі скрыжаванымі пазначаныя? Зь якімі такімі супастатамі там сувораўскія палкі дужаліся?

Адказ цікаўнаму тубыльцу дае разьдзел са сьціпленькім назовам «От Смоленска до Вильны».

Уступныя абзацы хвалююць розум і сэрца як высокім літаратурным стылем і бездакорнай пунктуацыяй, так і бяздоннай глыбінёю гістарычных ведаў. «Объединившиеся в XVI веке в одно государство Речь Посполитая, Польша и Литва (дык колькі ўсё ж краін і куды аб'ядналіся?) распространили было свое господство на огромные территории к востоку от Днепра и Западной Двины. К XVIII веку, однако, все переменилось. Как отмечает советский историк, «политическая жизнь Польши являла собой картину полнейшей анархии. Бесконечные интриги, борьба за престол, плохо организованная и вооруженная армия, лишенная твердой дисциплины»...

У Расеі, трэба меркаваць, усё тым часам было ў ажуры. Не заўважалася ні інтрыгаў, ні барацьбы за трон. Калі прыхільнікі Кацярыны зьвялі са сьвету Пятра III, народу «высочайше» паведамілі, што «бывший император волею Божьей внезапно скончался от геморроидального припадка». (Гэта цытатка, як чытач здагадаўся, ужо зь іншага фаліянту.) Сумнявацца ў афіцыйным тлумачэньні сьмерці не рэкамэндавалася, бо ў адваротным выпадку вырывалі язык і навекі адпраўлялі ў Сібір. Карацей, з дысцыплінай быў поўны парадак.

Што адсюль вынікала? А тое, што Расея, як нярaз ужо здаралася дагэтуль і будзе працягвацца пазьней, вырашала «оказать соседям братскую помощь». «Речь шла, — тлумачыць чытачу раманіст, — о положении разномыслящих в вере, большей частью православных — белорусов и украинцев, притесняемых католической церковью». Ведае аўтар рамана, што праваслаўных у Беларусі налічвалася тады ўсяго крыху болей за шэсьць адсоткаў (а блізу 80 адсоткаў складалі «нехорошие» грэка-каталікі, альбо ўніяты, якіх новая ўлада потым перагоніць у «истинную» веру) ці ня ведае, неістотна. Няхай гэтых праваслаўных было б у «Польше», дапусьцім, ня шэсьць адсоткаў, а ўсяго шэсьць чалавек — галоўнае, каб яны накаталі ў суседнюю дзяржаву скаргу. Далей усё проста: «Князь Репнин, опираясь на десять тысяч русских штыков, предложил польскому сейму обеспечить свободу вероисповедания и гражданские права иноверцам. (Забясьпечваць гэтыя правы сваім іншаверцам у тагачаснай Расеі ўжо навучыліся: стараабрадцаў палілі, а тых, хто пасьпеў памерці ўласнай сьмерцю, выкопвалі з магілаў і кідалі сабакам.) Встретив сопротивление шляхты, Репнин приказал ночью арестовать четырех влиятельных вожаков и отправить их под конвоем в Россию. Недовольные депутаты примолкли»...



Аднак маўчалі ня ўсе. У 1768 годзе ў мястэчку Бар было абвешчана аб стварэньні патрыятычнай канфэдэрацыі, удзельнікі якой прысягнулі бараніць незалежнасьць Айчыны са зброяй у руках. Вось тут на арэне і зьяўляецца камандзір брыгады Суўораў, які «посадил свою пехоту на реквизированные у обывателей подводы и в двенадцать суток прошел более шестисот верст, не потеряв ни одного человека и рассеяв попутно скопление конфедератов под Пинском». Далей у духу прымітыўнага вэстэрна апавядаецца пра бясконцыя перамогі зухаватага камбрыга над непрыяцелямі. Калі апошнім і ўдаецца выйграць нейкую баталію, дык не таму, што яны бароняць ад акупантаў родныя гарады і мястэчкі, а выключна дзякуючы «предательскому нападению» або «вероломному удару». Малюючы трагічную для патрыётаў бітву пад Сталавічамі, раманіст, не змаргнуўшы вокам, паведамляе даверліваму чытачу, што «поляки потеряли более четырехсот убитыми и трехсот пленными, у русских же погибло лишь восемь нижних чинов». Вядома ж, нашы продкі, якімі камандаваў вялікі гетман Міхал Казімір Агінскі, ня ведалі, адкуль стрэльба страляе і, наогул, рукі ў іх расьлі не з таго месца. (Гэтаксама спрытна «нашы» пяціклясьнікі з сацрэалістычных твораў пачкамі бралі мацёрых агентаў ЦРУ.)

Калі ў 1772 годзе адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай, галоўны герой рамана атрымаў адпачынак. Бавіў яго Аляксандар Васільевіч у Вільні, сталіцы яшчэ нібыта незалежнага Вялікага Княства Літоўскага, дзе быў расквартараваны расейскі корпус. Чытач зь ціхім замілаваньнем даведаецца, што, наведваючы ў Вільні вечарыны й балі, Суворaў «чувствовал себя всякий раз неловко». Няўжо яму ўспаміналіся дзясяткі спаленых вёсак? Няўжо было ніякавата глядзець у вочы сябрам і блізкім палеглых у змаганьні? Раманіст разьвейвае сумневы: генэрал мучыўся, бо бачыў у люстэрках віленскіх салёнаў сваю «маленькую сутуловатую фигурку». Што да разарванай Расеяй, Аўстрыяй і Прусіяй на часткі радзімы нашых продкаў, дык на адпачынку Суворaў пісаў у Пецярбург: «Этой стране я желал делать только добро, по крайней мере всегда о том старался».

Наступная нагода «постараться» выпала ў 1794 годзе, калі Беларусь разам зь Літвой і Польшчай паўстала супраць расейскага панаваньня, даручыўшы свой лёс Тадэвушу Касьцюшку. Як вядома, менавіта крывавыя подзьвігі пад час задушэньня нацыянальна-вызвольнага паўстаньня прынесьлі Сувораву найбольшую падзяку ад імпэратрыцы Кацярыны II, што выявілася і ў атрыманьні фэльдмаршальскага жэзлу, «которого Александр Васильевич ожидал с суеверным волнением».

Раманіст не стамляецца падкрэсьліваць геніяльнасьць расейскага палкаводца. Але сваім жа пяром сее ў душах у чытачоў сумневы, бо генію вайсковага мастацтва супрацьстаяць суцэльныя няздары, бабнікі й прыхільнікі Бахуса. Апошні вялікі князь літоўскі і кароль польскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — «робкий и нерешительный». Пераемнік Касьцюшкі ў кіраўніцтве паўстаньнем і таксама наш зямляк генэрал Тамаш Ваўжэцкі — «командующий неумелый и безвольный». Сам Касьцюшка дзейнічае «поспешно», а калі яму і ўдаецца нейкім дзівам разьбіць царскія войскі, як, напрыклад, аддзел генэрал-маёра А.Тармасава пад Рацлавіцамі, дык таму, што быў аддзел «слабый». (Апрача таго, хоць і перамаглі, але сфармаваная з шляхты паўстанцкая коньніца «в сражении осрамилась».)



А.Арлоўскі. Бітва пад Рацлавіцамі

А якое маральнае аблічча ў абаронцаў Вялікага Княства! То, падкручваючы шляхецкія вусы, бязь меры жлукцяць віно, то ноч навылёт рэжуцца ў карты. Гетман Агінскі перад бітвай і ўвогуле «сибаритствует с француженкою».

Зусім іншы modus vivendi ў Аляксандра Васілевіча Суворава. Па-першае, ён «почти равнодушный к женскому полу». Па-другое, калі і возьме на грудзі порцыю чаго-небудзь бяз содавай, дык адразу закусіць салдацкім сухарыкам і кладзецца спаць. А па-трэцяе, штодня, як і адзін ягоны аднайменьнік, займаецца спортам. Апісаньне таго, як гэта адбываецца, трэба аднесьці да найбольшых творчых удачаў раманіста А.Міхайлава. «Адъютант Тищенко приготовил и прибрал теплую хату, но не догадался осмотреть в ней запечье, где спала глухая старуха... Суворов по своему обыкновению разделся донага, окатился холодной водой и принялся прыгать по хате, напевая по-турецки разные изречения из Корана. В это время проснулась старуха, выглянула из запечья и, приняв фельдмаршала за черта, закричала что было мочи: «Ратуйте! С нами нечистая сила!». Прибежали адъютант и камердинер Прохор и вывели старуху, полумертвую от ужаса».

Гартае тутэйшы чалавек старонкі і ня можа, як ад восеньскай мухі, абагнацца ад пытаньня: дзе ж усё гэта чыніцца? Дзе, напрыклад, тое мястэчка Дзівін, у якім сувораўцы захапілі палонных і «с пристрастием» дапытвалі мясцовых жыхароў? Дзе «городок Кобрин», у якім засела з паўтысячы інсургентаў? У якіх палесьсінах прытулілася вёска Добрын, дзе «скопились беглецы», а каб ня вельмі яны там «скоплялись», «артиллерия открыла огонь; сабли конницы и штыки пехоты довершили дело»?..

Дык на якой жа зямлі непераможныя арлы й сокалы руйнуюць з гарматаў мірныя вёскі і выганяюць з хатаў недарэчных, зьнямелых ад жаху глухіх бабуляў?

Тут раманіст, як некалі ягоны герой у Вільні, «чувствует себя всякий раз неловко», а таму гэтую таямніцу не адкрывае. Ну а на той выпадак, калі хтосьці пачне падазраваць, што падзеі разгортваюцца ў Беларусі, адпаведны разьдзел кнігі азагалоўлены абачліва й някідка — «Снова на юге России».

Гэта дзесьці там, на «юге России», генэрал-фельдмаршал Суворaў атрымаў за карную экспэдыцыю 1794 году Кобрынскую вобласьць з 13 279 душамі прыгонных сялянаў.

І цяпер там, на «юге России», усё спакойна. У Кобрыне — музэй Аляксандра Васільевіча. У гарадах і мястэчках — болей за пяцьдзясят вуліц ягонага імя. А дадайце яшчэ два дзясяткі калгасаў. А помнікі? А сувораўская вучэльня ў сталіцы гэтага самага «юга»? А, урэшце, прагартаны гістарычны раман?

Скажыце такое паляку ці літоўцу — не паверaць. Малдова, дзе таксама Аляксандар Васільевіч крывава насьлядзіў, «дэсуворавізацыю» даўно правяла. На «юге России» ўсё інача.

У нас краіна свабодная. Значыцца, і вуліцы з калгасамі ў ёй можна рознымі імёнамі называць, і кніжкі могуць прадавацца любыя. Кажуць, неўзабаве зьявіцца перавыданьне «Майн кампф». Тым больш, прынамсі адзін (затое які!) прыхільнік «известного Адольфа Гитлера» — у наяўнасьці.

А «Суворава» й перавыдаваць ня трэба. Як у той «беларускай народнай песьні» сталінскіх часоў, змайстраванай тагачасным клясыкам Міхасём Клімковічам пяецца — «Нам Масква прыслала падкрапленьне». На «юге России» і радыя. Пакуль гістарычныя творы сваіх аўтараў рэжуцца цэнзурай ды арыштоўваюцца ў друкарнях, будзем чытаць пра Суворава.

Вы скажаце, ёсьць такое паняцьце — нацыянальная годнасьць? А я вам распавяду, як сустрэў нядаўна ў нас, на «юге России», знаёмага — чалавека, між іншым, зь вядомым шляхецкім прозьвішчам — які радасна паведаміў пра нараджэньне сына. «Ну і як ахрысьцілі?» — пацікавіўся аўтар гэтых радкоў у нашчадка паўстанцаў 1794-га і 1863-га. «Аляксандрам». — «У гонар прэзыдэнта?» Нашчадак чамусьці пакрыўдзіўся і пачаў загінаць пальцы: «Аляксандар Македонскі — раз. Аляксандар Неўскі — два. Аляксандар Суворaў — тры...»



## Бясплатныя прыватныя абвесткі

Дарагія Алена і Алесь! Віншую вас з гадавінай шлюбу! Жадаю сямейнага дабрабыту, здароўя вам і дачушцы Янінцы, посьпехаў у барацьбе за вольную Бацькаўшчыну! Раіса Мікалаеўна

Маю на абмен новую «Крыніцу» №1-33. Вялейка, вул. Л.Талстога, 51-63. Тэл.: 5-78-95

Віншаваньні з днём нараджэньня для любага татачкі і каханага мужа Лявона Лаўрэша дасылаюць родныя зь Ліды

Нарошчваньне цягліцаў бяз «хіміі», павелічэньне росту да 8 см, зьніжэньне вагі. Капэрта са зв/а + купон абвесткі. 246012, Гомель, а/с 147

Вайсковы аддзел Слуцкай Рады віншуе сяброў і прыхільнікаў з 80-мі ўгодкамі БНР

Пазнаёмлюся з мужчынам. Мне 47 гадоў, прыгожая, добрая. Рак 170/80. Тэл.: 248-79-52

Шукаю сяброўку беларуску, мэдыка, 33-37/167. Сьветлую, простую, зграбную, сэксуальна і матэрыяльна не заклапочаную. Пра сябе.: 43/177, нежанаты, шкодных звычак ня маю. 213760, Асіповічы, а/с 54

Hanusia — smalanyja koski, z dniom narodzinaŭ! Mikoła Kavalenka

Hannačka — kinder-piajun, Paeta naš entrapijny! Z dniom naradžeńnia — budź insurhientam! Kaladman Lavon i K°

С.Адамовіч віншуе Арыну і Вінцука Вячоркаў з нараджэньнем трэцяга дзіцяці — дачушкі. Няхай дапамогуць Вам Бог і Бацькаўшчына!

Куплю: Расейска-беларускі слоўнік Насовіча; Беларуска-расейскі (Вялікалітоўска-расейскі) слоўнік Станкевіча. Тэл.: 270-89-87

Сям'я здыме аднапакаёвую кватэру з тэлефонам. Тэл.: 221-23-68

Праца ў хатніх умовах — 8 ідаў. Прыбытак ад 100 $. Навыкаў не патрабуецца. Ад вас капэрта са зв/а + купон для абвестак. 246012, Гомель, а/с 143

Young (26) man is looking for speaking English guy with same interests for friendship. Call: 221-92-05

**Рэдакцыя газэты запрашае на працу рэклямнага агента. Тэл.: 213-43-52 (з 10 да 12 гадзінаў штодзённа, акрамя суботы й нядзелі)**

**КУПОН**

**Бясплатнай прыватнай абвесткі**

*Тэкст:*

*Імя і прозьвішча*

*Адрас, тэлефон*

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220123, Менск, а/с 71

# БЕЛАРУСКІ ПАТРЫЯТЫЧНЫ СЬПЕЎНІК

### Родны Край

Словы Н.Арсеньневай

ДУЭТ

Музыка З.Зубковіч




КАЛЯНДАР

## Раcколаты камень

Інфармацыя аб праекце накідваньня «залатой пятлі» на нашыя старажытныя помнікі («НН», №3 1998) выклікае з памяці невялікі ліст, надрукаваны на пачатку 90-х у адной з тагачасных газэтаў. Ліст быў падпісаны «групай беларускіх афіцэраў». Яны «папярэджвалі», што калі раптам беларусы далучаць краіну да Расеі, яны — «афіцэры» — «падымуць у неба свае самалёты», каб зьнішчыць усе помнікі гісторыі, усё, што сьведчыць аб існаваньні Беларусі як суб'екта. Бо ж, маўляў, народ, які выракаецца ўласнага імя і ўласнае мінуўшчыны, ня мае права спрычыняцца да сьвятыняў...

Сёлета сьвет адзначае ўгодкі Залатога Храму. Галоўная сьвятыня старажытнай японскай сталіцы Кіота, гэтая будыйская бажніца была збудаваная на пачатку 1398 году. Цягам свае гісторыі Залаты Храм ператрываў усе магчымыя навалы. Але быў спалены у 1950 годзе чалавекам, які, магчыма, любіў Храм так, як ніхто іншы — хлопцам-манахам Мідзагуці.

Мідзагуці ня быў Герастратам ці «дывэрсантам». Яго назвалі «вар'ятам», і аднавілі Залаты Храм рыхтык такім, якім ён быў збудаваны. Полымя, у якім зьніклі сьцены сьвятыні, сталася для японцаў адно імгненнай іскрынкай. Сёлета яны ўшануюць ня копію, а менавіта Храм — увасабленьне найвялікшага ў сьвеце Харастава.

Ці быў Мідзагуці няшчасным, ці быў шчасьлівым, калі пераканаўся ў сваіх адчуваньнях: Хараство, што ад пачатку жыве ў душы, ня можа зьнікнуць у языках вогнішча? Незалежна ад таго, забранае яно ў формы сіндэн-дзукуры, готыкі, бізантыкі ці віленскага барока. Мідзагуці абраў знакам Хараства герогліф Залатога Храму...

Сярод беларускіх сымбаляў, бадай, амаль невядомы — Расколаты камень. Ён стаіць на глухім раздарожжы, што ў лесе пад Слонімам. Абрыс — ці-то казачны замак, ці-то ўцёс, ці-то старажытнае капішча... Сьвятое месца. Кажуць, што камень раскалола маланка. Калі, чаму?.. Да 1939 году на камяні стаяў усталяваны шчэ за вялікакняскімі часамі крыж. Па прыходзе саветаў крыж зьнік, але зьявіўся шырокі й глыбокі скол. Сёньня на ім фарбай выведзеныя словы «вася, маня, коля...» Што сталася з тымі «художнікамі» — невядома. Але людзі памятаюць, што дзеля брукаваньня дарогі «на Захад!» саветы паспрабавалі ўзарваць камень. Усе жаўнеры, якія гэтым займаліся, загінулі на месцы.

Таму, калі я слухаю аб тым, што на краіну накідваецца чарговая «пятля», я спакойны — апошняя зь петляў захлясьнецца на Расколатым камені.

І тады сьлед ад маланкі зьнікне.

**Севярын Квяткоўскі**

## БЕЛАРУСКАЯ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ (НАРОДНАЯ ГРАМАДА)

*Прэс-служба*
*28 лютага 1998 г.*

**ЗЬ ЮБІЛЕЕМ!**

АНАТОЛЮ СІДАРЭВІЧУ – ПЯЦЬДЗЯСЯТ. Ня так і многа, але й ня мала. Сам юбіляр не заўважыў гэтае даты, ды й ня толькі ён адзін. Не да таго — спадар Анатоль заняты. Для яго няма выхадных і сьвяточных дзён, альфа і амэга ягонага жыцьця — Беларускі гуманітарны ліцэй ды Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада). Зрэдку ягоны голас можна пачуць у Радыё Свабода. Даўно не друкуецца вядомы публіцыст, ды і іншыя цяпер публіцысты, а такога як Сідарэвіч няма. Затое ўсё больш маладых інтэлектуалаў кажуць — я вучань ягоны! Ён ніколі ня дасьць Народнай Грамадзе зьбіцца з таго шляху, што некалі пракладалі яе заснавальнікі. Зробленае спадаром Анатолем — назаўсёды. Пра яго ніяк ня скажаш — дзяяч, змагар, барацьбіт або руплівец, ён проста чалавек вялікага сумленьня і гонару. Некалі на Страшным судзе многа хто зь беларускае інтэлігенцыі апраўдаецца перад Богам ягоным імем. Няшмат такіх людзей, хопіць пальцаў на руках, каб іх пералічыць. А перад чалавекам, які ўзьняўся на паўвекавы ўзгорак, адкрыліся новыя далягляды. Здароўя табе, спадар Сідарэвіч! Усё астатняе ты здабудзеш сам.

*Сябры з партыі*




**Распачалася рассылка кнігі прозы Васіля Быкава «Сьцяна» тым нашым чытачам, якія зрабілі папярэднюю аплату выданьня.**

Іншыя ахвотныя могуць атрымаць кнігу паводле стандартных правілаў сыстэмы «Кніга-поштай» (гл. № 50).

## КНІГІ – ПОШТАЙ

**Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

*Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.*

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў. | 60.000 | 16.000 |
| 2 | А.Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. | 28.000 | 12.000 |
| 3 | А.Цьвікевіч. «Западноруссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў 19 і пачатку 20 в. | 40.000 | 16.000 |
| 4 | І.Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду. | 10.000 | 10.000 |
| 5 | Е.Ширяев. Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах. | 40.000 | 12.000 |
| 6 | М.Говард. Сучасная культурная антрапалёгія. | 25.000 | 16.000 |
| 7 | У.Ла Бар. Асабістасьць з псыхалягічнага пункту гледжаньня. | 12.000 | 10.000 |
| 8 | Дж.Эйчысан. Гаваркія істоты. Уводзіны ў псыхалінгвістыку. | 10.000 | 12.000 |
| 9 | Што такое параўнальнае літаратуразнаўства. | 25.000 | 12.000 |
| 10 | Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію. | 10.000 | 12.000 |
| 11 | Дж.Лоўзі. Гістарычныя ўводзіны ў філязофію навукі. | 20.000 | 12.000 |
| 12 | Ж.Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён. | 15.000 | 16.000 |
| 13 | Ф.Брэтон. Выбух камунікацыі. | 20.000 | 12.000 |
| 14 | Ж.Эрш. Філязофскае здумленьне. | 30.000 | 12.000 |
| 15 | Ш.Дэбаш. Уводзіны ў палітыку. | 30000 | 16.000 |
| 16 | К.Рын. Дэмакратыя і этычнае жыцьцё. | 25.000 | 10.000 |
| 17 | Дж.Бэрдшоў. Эканоміка. Ч1: Мікраэканоміка. Дапаможнік для студэнтаў. | 45.000 | 20.000 |
| 19 | Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры) №2(97) | 40.000 | 20.000 |
| 20 | Крыўя. №1, 1994 | 45.000 | 12.000 |
| 21 | Крыўя. №1, 1996 | 55.000 | 12.000 |
| 22 | В.Кіпель. Беларусы ў ЗША. | 15.000 | 16.000 |
| 23 | М.Грыгор'еў. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі. | 20.000 | 10.000 |
| 24 | Т.Сапач. Восень. | 10.000 | 6.000 |
| 25 | А.Глёбус. Толькі не гавары маёй маме. | 30.000 | 16.000 |
| 26 | А.Глёбус. Скрыжаваньне. | 10.000 | 6.000 |
| 27 | Э.Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі. | 15.000 | 12.000 |
| 28 | Беларускі вайсковы строй і зброя. | 20.000 | 6.000 |
| 29 | Беларускі рок-н-рол. | 10.000 | 6.000 |
| 30 | П.Бэрк. Рэнэсанс. | 25.000 | 12.000 |
| 31 | Ю.Штайнэр. Эўрапейскія дэмакратыі. | 25.000 | 20.000 |
| 32 | Ё.Тэрборн. Эўропа сёньня і заўтра(1945-2000). | 32.000 | 16.000 |
| 33 | А.Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. | 70.000 | 24.000 |
| 34 | Я.Найдзюк. Беларусь учора і сёньня. | 30.000 | 12.000 |
| 35 | В.Гапоненка. Іван Яркоўскі. У пошуках гармоніі сусьвету. | 10.000 | 6.000 |
| 36 | А.Ятусевіч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. | 20.000 | 10.000 |
| 37 | Ніл Гілевіч. Любоў прасьветлая. | 35.000 | 12.000 |
| 38 | С.Станкевіч. Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу. | 10.000 | 6.000 |
| 39 | Г.Сяржаніна. Беларуская навуковая тэрміналёгія. Біялёгія. | 10.000 | 10.000 |
| 40 | Ніл Гілевіч. Талісман. | 15.000 | 10.000 |
| 41 | Я.Станкевіч. Маленькі МАСКОЎСКА-БЕЛАРУСКІ слоўнічак. | 10.000 | 6.000 |
| 42 | Л.Мірачыцкі. Сьветлым ценем Адама Міцкевіча. | 10.000 | 6.000 |
| 43 | Рэформа беларускага правапісу 1933 года. | 6.000 | 6.000 |
| 44 | Ул.Арлоў. Адкуль наш род. | 85.000 | 15.000 |
| 45 | Я.Запруднік. Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях. | 55.000 | 16.000 |
| 46 | Новы Запавет. | 65.000 | 16.000 |
| 47 | Каралеўства Беларусь: Посткаляніяльная культура. | 105.000 | 15.000 |
| 48 | А Лукашук.«За кіпучай чэкісцкай работай» | 50.000 | 12.000 |
| 49 | Канвэер сьмерці | 240.000 | 20.000 |
| 50 | Васіль Быкаў. Сьцяна. | 92.000 | 20.000 |

**ДЗІЦЯЧАЯ КНІГА**

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Кася ў школцы. | 9.000 | 14.000 |
| 2 | Шарль Пэро. Чарадзейныя казкі. | 20.000 | 26.000 |
| 3 | Лагодны Цмок. | 15.000 | 21.000 |
| 4 | Гарасьо Кірога. Казкі трапічнага лесу. | 15.000 | 21.000 |
| 5 | Графіня дэ Сэгюр. Зачараваная хатка. | 20.000 | 26.000 |
| 6 | Марві Яла. Дзівосная Ноч. | 15.000 | 21.000 |

## КАСЭТЫ – ПОШТАЙ

***На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць касэты (кошт 42.000 + 7.000 БРБ)***

Ален. Нармалёк (1995)
Ален. Нармалёк 2 альбо Мафія (1996)
Вольга Акуліч.Трохкутнік
Вальжына Цярэшчанка (1991-1995)
Беларускія народныя казкі
Музычныя казкі (1996)
Бонда. Найлепшыя песьні
Данчык. Я ад вас далёка. Мы адной табе належым
Данчык. Мы яшчэ сустрэнемся.
Новае неба. Дзеці чорнага гораду (1991)
Новае неба. Сон у трамваі (1994)
Новае неба. Go home (1995)
Новае неба. Мая краіна (1996)
Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
Крама. Гэй, там, налівай! (1994)
Крама. Камэндант (1995)
Крама. Лепшыя песьні (1993-1995)
Мроя. Найлепшыя песьні з праграмаў 1988-1990
NRM. ŁaŁaŁaŁa (1995.)
NRM. Одзірыдзідзіна (1996)
Беларуская музычная літаратура (т.1-4)
Залаты фонд Беларускага рок-н-ролу (т.1-5) т.1. Бонда. Уліс. Рэй. Мясцовы час. Блізьняты (1986-1990) т.2. Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае неба. Мясцовы час. Тутэйшыя хлопцы (1990-1993) т.3. Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & Доктор Моро. Гранит. Метро. Сузор'е. Зартипо (1986-1991) т.4. Палац. Уліс. Крама. Новае неба. Мроя (1992-1994) т.5. Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Торнадо. Флэт (1992-1994)
Рок па вакацыях-96 (НРМ. Уліс. Флэт. Торнадо. Крама. Рублёвая зона. Новае неба. А.Шадзько і А.Юшын)
Будзьце аптымістамі, рабіце дзетак (Новае неба. Ляпис Трубецкой. НРМ. Палац, 1996)
Беларускі джаз т.1. Рэнэсанс т.2. Ігар Сафонаў т.3. Яблычная гарбата. Пчаліны танец.
Беларуская гітарная музыка (1996)
Беларуская сымфанічная музыка (1996)
Яўген Паплаўскі. Творы (1996)
Лепшыя музычна-драматычныя творы радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» т.1. Чалавек, якому хацелася ўсяго (памяці Ф.Мэркуры) т.2. Лесьвіца ў нябёсы (фантазія па матывах Лед Зэпэлін, Робэрта Планта і Рычарда Баха) т.3. Танец поўні (прагулка са Стынгам)
Андрэй Мельнікаў. Успамін (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Салам Саўкам (1993)
Андрэй Мельнікаў. Песьні выгнаньня (1991-1993)
Андрэй Мельнікаў. Камяні майго вогнішча (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Да апошняга камісара (1995-1996)
Андрэй Мельнікаў. Гэта мы (1996)
Андрэй Мельнікаў. Шлях. 2 часткі (1996)
Уліс. Краіна доўгай белай хмары (1990)
Уліс. Чужаніца (1991)
Уліс. Танцы на даху (1993)
Уліс. Life-96
Уліс. Блуканьне (1996)
Мясцовы час. Наша ўскраіна (1991)
Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюз (1996)
Палац (1995)
Песьні беларускіх бардаў (1992)
Рок супраць рэвалюцыяў (Новае неба. Зіндан. Уліс. Мроя. Крама, 1994)
Маладзёжныя хрысьціянскія сьпевы. Прыйдзі і праслаўляй (1996)
Ліцьвіны. Неба і зямля (1994)
Ліцьвіны. Пятае сакавіка (1996)
Зьміцер Бартосік. Да пабачэньня... (1996)
Уладзімер Клімовіч. Дзеці вятроў (1997)
Камэлот. У краіне талераў. (1995)
Эдуард Акулін. Мая Крывія. (1996)
Неруш (1997)
Ігар Палівода. «Максім» (1997
Новае неба. Выбранае. Песьні з альбомаў 1990-1996 г.
Уліс. Ратуйце вашыя душы. Песьні з альбомаў 1996 г.
NRM. Made in NRM. Песьні з альбомаў 1995-1996
KRIWI - праект фольк-мадэрн студыі «Палац»
Купалінка - Kupalinka. Folk-group.
Ліцьвіны. Галуб на чарэшні.
Песьнярок. Песьні «Песьняроў» у выкананьні «Крамы», NRM, «Троіцы», «Тарнада», «Пані Хіды», «Ляпис Трубецкого», «Нейродюбеля», Валіка Грышко.
Белы сон (Беласток, 1997)
Харошкі. Полацкі сшытак, традыцыйная музыка (1997)
Жыгімонт Ваза. Стан Галюцынацыі
Марыя Скуратовіч. Табе, Хрысьце!
Песьнярок. CD (170.000)
Кардон. Радыяцыя
Мроя. Дваццаць восьмая зорка
Небясьпечная Зона (Exhumator, Sarcastic Green, Barfly's Dreams, Gernunnos, God's Tower ды інш.)
Народны альбом: Супольны музычны праект (1997).
Made in Belarus: Беларускія застольныя песьні ў танцавальнай апрацоўцы (1997).
Сяржук Мінскевіч. Шляхі (1997).
Палац. Дарожка (1997).
Данчык. Беларусачка і іншыя песьні (1974/1998).
Мясцовы час. Падвойны альбом (1998): Слота (1989), Мой дом (1990).

**КОШТ КАСЭТАЎ 43.000 + 7.000 ПОШТА**

Gods Tower. The Eerie.
Gods Tower. Canticles.
Plastic Hardcore. Ultra.
Chemical Warfare. Demolition Tape.
Headcleaner. Hash. Hash. Resistance.
Insania Trivium. Candle of Fire.

**Касэты можна замовіць праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч**

### НАВІНКА!




*Леан Патоцкі. Успаміны пра Тышкевічаву Сьвіслач, Дзярэчын і Ружану / Укл., прадмова, камэнт. А.Філатавай. — Пер. з польск. І.Саламевіча. — Менск: Полымя, 1997. (Літаратурныя помнікі Беларусі). ISBN 5-345-00763-2*

Мэмуары графа Патоцкага абуджаюць даўнія гісторыі й іхныя прывіды, якія яшчэ жывуць у малых беларускіх мястэчках.

### НАВІНКА!



*Ігнат Дуброўскі. Гаснуць вулканы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. ISBN 985-02-0449-4*

Гэты дакумэнтальны раман прысьвечаны выбітнаму беларускаму генэтыку антону Жэбраку, які пад час таталітарызму 30-40-х гадоў бараніў свае навуковыя прынцыпы ад наступаў усемагутнай тады лысенкаўшчыны.




### ЛІТОЎСКАЯ МЭТРЫКА

Прымаюцца заяўкі на тамы Мэтрыкі – 6, 7, 8, 10, 11. Ахвотным просьба зьвяртацца на адрас: п/с 5 Менск 220085, Віталь Супрановіч.

Калі маеце тэлефон, калі ласка, пазначце яго.

## НОВЫЯ КНІГІ І ПЭРЫЁДЫКІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Ave Maria. Часопіс Менска-Магілёўскай Архідыяцэзіі. Студзень-люты № 1-2 (39-40). 1998. — Наклад 9000 ас.

Дуктаў У. Трэцяя асоба: Апавяданьні / Прадмова В.Гардзея. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 174 с. — (Першая кніга празаіка). — Наклад 1000 ас. ISBN 985-02-0343-9

Лаза. Беларускі хрысьціянскі альманах. Люты. № 1. 1998. — Наклад 499 ас.

Пісьмянкоў А. Вершы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 125 с., іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-02-0353-6

Скарабагатчанка А. Народная інструмэнтальная культура Беларускага Паазер'я. — Менск: Бел. навука, 1997. — 471 с., іл., ноты. — Наклад 800 ас. ISBN 985-08-0056-9

Туровіч А. Корпус: вершы, проза. — Маладэчна, 1998. — Наклад 2000 ас.

Яновіч, Сакрат. Сьцяна: Раман, апавяданьні. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 220 с. — Наклад 1.500 ас. ISBN 985-02-0019-7

Павлов С., Павлова Я. Радуга времени. — Менск: Ураджай, 1997. — 302 с., іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0222-9

Русско-белорусский политехнический словарь: В 2 т. Т.1. А-Н / НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства ім.Я.Коласа; Рэд. Н.Бурак і інш. — Менск: Беларуская навука, 1997. — 839 с. — Наклад 1000ас. ISBN 985-08-0065-8

Belarusian Canadian Coordinating Committee. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады. Камунікат № 2 (24 ад 1991). — Сакавік, 1998.

# Дадатковы пратакол да Эўрапейскай Сацыяльнай Хартыі*

Прэамбула

Дзяржавы-ўдзельніцы Рады Эўропы, якія падпісалі гэты Пратакол,

напоўненыя рашучасьцю зрабіць новыя захады для таго, каб пашырыць абарону сацыяльных і эканамічных правоў, гарантаваную Эўрапейскай сацыяльнай хартыяй, адкрытай для падпісаньня ў Турыне 18 кастрычніка 1961 году (называнай далей — «Хартыя»),

пагадзіліся пра наступнае:

Частка I

Бакі прызнаюць за мэту палітыкі, якую яны будуць праводзіць пры дапамозе ўсіх неабходных сродкаў як у нацыянальным, так і ў міжнародным пляне, стварэньне ўмоваў, якія забясьпечваюць рэальнае ажыцьцяўленьне ніжэй пералічаных правоў і прынцыпаў:

1. Усе працоўныя маюць права на роўныя магчымасьці і роўныя ўмовы ў тым, што датычыць занятасьці і прафэсіі, без дыскрымінацыі па прызнаку плоці.

2. Працоўныя маюць права на тое, каб іх інфармавалі і зь імі кансультаваліся ў межах прадпрыемства.

3. Працоўныя маюць права браць удзел у вызначэньні і паляпшэньні ўмоваў працы і вытворчасьці на прадпрыемстве.

4. Любая асоба састарэлага ўзросту мае права на сацыяльную абарону.

Частка II

Бакі абавязваюцца, як гэта прадугледжана ў Частцы III, лічыць сябе зьвязанымі абавязкамі, якія вынікаюць з наступных артыкулаў:

Артыкул I

Права на роўныя магчымасьці і роўныя ўмовы ў тым, што датычыць занятасьці і прафэсіі, без дыскрымінацыі па прызнаку плоці

1. Маючы за мэту забясьпечыць эфэктыўнае ажыцьцяўленьне права на роўныя магчымасьці і роўныя ўмовы ў тым, што датычыць занятасьці і прафэсіі, без дыскрымінацыі па прызнаку плоці, Бакі абавязваюцца прызнаць гэтае права і ўзяць належныя захады для таго, каб забясьпечыць ягоную рэалізацыю альбо разьвіцьцё ў наступных галінах:

— доступ да працы, абарона супраць звальненьня і прафэсійная рэінтэграцыя;

— прафэсійная арыентацыя, падрыхтоўка, перападрыхтоўка і рэадаптацыя;

— умовы найму і працы, уключаючы аплату працы;

— праходжаньне службы, уключаючы падвышэньне ў службе.

2. Не разглядаюцца ў якасьці дыскрымінацыйных згодна з сэнсам пункту I гэтага артыкула палажэньні, якія датычацца абароны жанчын, у прыватнасьці, у тым, што датычыць цяжарнасьці, родаў і пасьляродавага пэрыяду.

3. Пункт I гэтага артыкула не перашкаджае прыняцьцю канкрэтных захадаў, накіраваных на ўхіленьне фактычнай няроўнасьці.

4. Зь дзеяньня гэтага артыкула альбо асобных ягоных палажэньняў можа выключацца прафэсійная дзейнасьць, якая, з прычыны свайго характару альбо ўмоваў ажыцьцяўленьня, можа быць даручаная толькі прадстаўнікам пэўнай плоці.

Артыкул 2

Права на інфармацыю і кансультацыі

1. Маючы за мэту забясьпечыць рэальнае ажыцьцяўленьне права працоўных на тое, каб іх інфармавалі і зь імі кансультаваліся ў межах прадпрыемства, Бакі абавязваюцца прыняць альбо заахвочваць прыняцьце захадаў, якія дазваляюць працоўным альбо іхным прадстаўнікам у адпаведнасьці з нацыянальным заканадаўствам і практыкай

а) быць рэгулярна альбо своечасова інфармаванымі ў даступнай форме пра эканамічнае і фінансавае становішча прадпрыемства, на якім яны працуюць, пры тым разуменьні, што ў атрыманьні пэўнай інфармацыі, якая здольная нанесьці прадпрыемству страты, ім можа быць адмоўлена альбо яна даецца на ўмовах захаваньня ейнай канфідэнцыйнасьці; і

b) своечасова пад час кансультацыі выказваць свае думкі адносна меркаваных рашэньняў, якія могуць істотна закранаць інтарэсы працоўных і, асабліва тыя зь іх, якія могуць мець важныя вынікі для сытуацыі з занятасьцю на прадпрыемстве.

2. Бакі могуць выключыць зь дзеяньня пункту 1 гэтага артыкула такія прадпрыемствы, колькасьць занятых на якіх не дасягае парогу, усталяванага нацыянальным заканадаўствам альбо практыкай.

Артыкул 3

Права браць удзел у вызначэньні і паляпшэньні ўмоваў працы і вытворчасьці

1. Маючы за мэту забясьпечыць рэальнае ажыцьцяўленьне права працоўных браць удзел у вызначэньні і паляпшэньні ўмоваў працы і вытворчасьці на прадпрыемстве, Бакі абавязваюцца прыняць альбо заахвочваць прыняцьце захадаў, якія дазваляюць працоўным альбо іхным прадстаўнікам у адпаведнасьці з нацыянальным заканадаўствам і практыкай укладаць свой унёсак у:

а) вызначэньне і паляпшэньне ўмоваў працы, арганізацыі працы і ўмоваў вытворчасьці;

b) абарону здароўя і бясьпекі на прадпрыемстве;

с) арганізацыю паслугаў і ўмоваў сацыяльнага і сацыяльна-культурнага характару ў межах прадпрыемства;

d) ажыцьцяўленьне кантролю за захаваньнем правілаў, дзейных у гэтых галінах.

2. Бакі могуць выключыць зь дзеяньня пункту 1 гэтага атыкула такія прадпрыемствы, колькасьць занятых на якіх не дасягае парога, які ўсталёўвае нацыянальнае заканадаўства альбо практыка.

Артыкул 4

Права асобаў састарэлага ўзросту на сацыяльную абарону

Маючы за мэту забясьпечыць рэальнае ажыцьцяўленьне права асобаў састарэлага ўзросту на сацыяльную абарону, Бакі абавязваюцца прыняць альбо заахвочваць прыняцьце альбо непасрэдна, альбо ў супрацоўніцтве зь дзяржаўнымі ці прыватнымі арганізацыямі належных захадаў, накіраваных, у прыватнасьці, на тое, каб:

1. Дазволіць асобам састарэлага ўзросту заставацца як мага долей паўнавартаснымі чальцамі грамадзтва праз:

а) даваньне ім дастатковых сродкаў, якія дазволяць ім весьці належнае існаваньне і актыўна ўдзельнічаць у дзяржаўным, грамадзкім і культурным жыцьці;

b) мэдычнага абслугоўваньня і паслугаў, якія могуць запатрабавацца ў іхным стане;

3. Гарантаваць асобам састарэлага ўзросту, якія пражываюць ва ўстановах для састарэлых, неабходную ім дапамогу, якая мусіць аказвацца з захаваньнем павагі да іхнага прыватнага жыцьця, і ўдзел у вызначэньні ўмоваў жыцьця ў гэтых установах.

Частка III

Артыкул 5

Абавязкі



1.Кожны з Бакоў абавязваецца:

а) разглядаць Частку I гэтай Хартыі ў якасьці дэкларацыі мэтаў, дасягненьню якіх ён будзе садзейнічаць праз усе неабходныя сродкі ў адпаведнасьці з палажэньнямі ўступнага пункту вышэйназванай Часткі;

b) лічыць за маючыя для сябе абавязковую сілу адну альбо больш артыкулаў Часткі II гэтага Пратаколу.

2. Дзяржава-ўдзельніца пры здачы на захаваньне ратыфікацыйнай граматы альбо дакумэнта аб прыняцьці альбо ўхвале даводзіць да ведама Генэральнага сакратара Рады Эўропы артыкул альбо артыкулы, абраныя ў адпаведнасьці з палажэньнямі падпункту «b» пункту 1 гэтага артыкула.

3. Кожны з Бакоў у далейшым можа заявіць праз паведамленьне Генэральнаму сакратару пра тое, што ён уважае за маючы для сябе абавязковую сілу любы іншы артыкул Часткі II гэтага Пратаколу, які ён яшчэ не прызнаў абавязковым для сябе ў адпаведнасьці з палажэньнямі пункту 1 гэтага артыкула. Такія прынятыя ў пазьнейшым абавязкі разглядаюцца ў якасьці неад'емнай складанай часткі ратыфікацыі, прыняцьця альбо ўхвалы і набываюць такую самую сілу, пачынаючы з трыццатага дня пасьля здачы паведамленьня.

Частка IV

Артыкул 6

Кантроль за захаваньнем прынятых абавязкаў

Бакі даюць даклады адносна прымяненьня прынятых імі палажэньняў Часткі II гэтага Пратаколу, у межах дакладаў, дадзеных дзеля выкананьня артыкула 21 Хартыі.

Частка V

Артыкул 7

Ажыцьцяўленьне прынятых абавязкаў

1. Адпаведныя палажэньні атыкулаў з 1-га па 4-ы Часткі II гэтага Пратаколу могуць быць выкананыя з дапамогай:

а) законаў альбо правілаў;

b) дамоваў, якія заключаныя паміж працадаўцамі альбо арганізацыямі працадаўцаў і арганізацыямі працоўных;

с) спалучэньня гэтых двух мэтадаў; альбо

d) іншых адпаведных захадаў.

2. Абавязкі, якія вынікаюць з артыкулаў 2 і 3 Часткі II гэтага Пратаколу, разглядаюцца ў якасьці выкананых, калі іхнае дзеяньне распаўсюджваецца на пераважную большасьць зацікаўленых працоўных.

Артыкул 8

Дачыненьні паміж Хартыяй і гэтым Пратаколам

1. Палажэньні гэтага Пратаколу не наносяць стратаў палажэньням Хартыі.

2. Артыкулы з 22-га па 32-гі і артыкул 36-ы Хартыі ў роўнай ступені прымяняюцца да гэтага Пратаколу.

Артыкул 9

Тэрытарыяльнае прымяненьне

1. Гэты Пратакол прымяняецца да тэрыторыі мэтраполіі кожнага з Бакоў. Кожная дзяржава пад час падпісаньня альбо здачы на захаваньне ратыфікацыйнай граматы альбо дакумэнта аб прыняцьці альбо ўхвале можа накіраваць на імя Генэральнага сакратара Рады Эўропы заяву з пазначэньнем тэрыторыі, якую дзеля гэтых мэтаў варта разглядаць у якасьці тэрыторыі мэтраполіі.

2. Любая з Дамоўных дзяржаваў можа пад час ратыфікацыі, прыняцьця альбо ўхвалы гэтага Пратаколу альбо ў любы іншы час пасьля гэтага накіраваць на імя Генэральнага сакратара Рады Эўропы заяву пра тое, што дзеяньне Пратаколу цалкам альбо ў ягонай частцы распаўсюджваецца на тэрыторыю альбо тэрыторыі па-за мэтраполіяй, пазначаныя ў гэтай заяве, якія яна прадстаўляе ў міжнародных дачыненьнях альбо за якія яна нясе міжнародную адказнасьць. У заяве пазначаюцца артыкул альбо артыкулы Часткі II гэтага Пратаколу, якія яна ўважае за маючыя для сябе абавязковю сілу ў дачыненьні да кожнай з тэрыторыяў, пералічаных у заяве.

3. Гэты Пратакол уступае ў сілу ў дачыненьні да тэрыторыі альбо тэрыторыяў, пазначаных у заяве, згаданай у папярэднім пункце, пачынаючы з трыццатага дня пасьля даты атрыманьня Генэральным сакратаром паведамленьня пра такую заяву.

4. Любы з Бакоў можа ў пазьнейшым праз паведамленьне, накіраванае на імя Генэральнага сакратара Рады Эўропы, заявіць пра тое, што ў дачыненьні да адной ці больш тэрыторыяў, на якія ў адпаведнасьці з пунктам 2 гэтага артыкула было распаўсюджанае дзеяньне Пратаколу, ён прымае за маючы абавязковую сілу любы артыкул, які ён яшчэ не прыняў у дачыненьні да гэтай тэыторыі альбо тэрыторыяў. Такія прынятыя на сябе ў далейшым абавязкі разглядаюцца як складаная частка першапачатковай заявы ў дачыненьні да гэтай тэрыторыі і дзейнічаюць у тым жа памеры з трыццатага дня пасьля даты атрыманьня Генэральным сакратаром паведамленьня пра такую заяву.

Артыкул 10

Падпісаньне, ратыфікацыя, прыняцьце, ухвала і ўступаньне ў сілу

1. Гэты Пратакол адкрыты для падпісаньня дзяржавамі-ўдзельніцамі Рады Эўропы, якія падпісалі Хартыю. Ён падлягае ратыфікацыі, прыняцьцю альбо ўхвале. Дзяржава-чалец Рады Эўропы ня можа ратыфікаваць, прыняць альбо ўхваліць гэты Пратакол інакш, чым адначасова з ратыфікацыяй альбо пасьля ратыфікацыі Хартыі. Ратыфікацыйныя граматы, дакумэнты аб прыняцьці альбо ўхвале здаюцца на захаваньне Генэральнаму сакратару Рады Эўропы.

2. Гэты Пратакол уступае ў сілу з трыццатага дня пасьля здачы на захаваньне трох ратыфікацыйных граматаў альбо дакумэнтаў аб прыняцьці альбо ўхвале.

3. Для любой дзяржавы, што падпісала Пратакол, якая ратыфікуе яго ў пазьнейшым, Пратакол уступае ў сілу з трыццатага дня пасьля здачы на захаваньне ягонай ратыфікацыйнай граматы альбо дакумэнта аб прыняцьці альбо ухвале.

Артыкул 11

Дэнансацыя

1. Любы Бок можа дэнансаваць гэты Пратакол толькі празь пяць гадоў з даты ўступаньня яго ў сілу ў дачыненьні да гэтага Боку альбо па сканчэньні любога наступнага двухгадовага пэрыяду і ў любым выпадку мусіць накіраваць пры гэтым за шэсьць месяцаў папярэдняе паведамленьне Генэральнаму сакратару Рады Эўропы. Такая дэнансацыя не закранае дзеяньні Пратаколу ў дачыненьні да іншых Бакоў пры ўмове, што колькасьць гэтых апошніх ніколі ня будзе менш за тры.

2. Любы Бок можа ў пазьнейшым у адпаведнасьці з палажэньнямі папярэдняга пункту дэнансаваць любы з прынятых ім артыкулаў Часкі II гэтага Пратаколу пры ўмове, што колькасьць артыкулаў, якія зьяўляюцца абавязковымі для такога Боку, ні ў які момант не складзе менш за адзін.

3. Любы Бок можа дэнансаваць гэты Пратакол альбо любы з артыкулаў Часткі II Пратаколу на ўмовах, пазначаных у пункце I гэтага артыкула, у дачыненьні да любой тэрыторыі, на якую дзеяньне Пратаколу распаўсюджваецца ў адпаведнасьці з пунктамі 2 і 4 артыкула 9.

4. Любы Бок, які прызнаў для сябе за абавязковыя Хартыю і гэты Пратакол, які дэнансуе Хартыю ў парадку, выкладзеным у пункце 1 артыкула 37 Хартыі, уважаецца за такі, які дэнансаваў таксама і Пратакол.

Артыкул 12

Паведамленьні

Генэральны сакратар Рады Эўропы паведамляе дзяржавам-чальцам і Генэральнаму дырэктару Міжнароднага бюро працы пра:

а) любое падпісаньне;

b) здачу на захаваньне любой ратыфікацыйнай граматы альбо дакумэнта аб прыняцьці альбо ўхвале;

с) любую дату ўступаньня ў сілу гэтага Пратаколу ў адпаведнасьці з артыкуламі 9 і 10;

d) любы іншы дакумэнт ці паведамленьне, якія маюць дачыненьне да гэтага Пратаколу.

Артыкул 13

Дадатак

Дадатак да гэтага Пратаколу зьяўляецца ягонай неад'емнай складнай часткай.

У пацьверджаньне гэтага ніжэйпадпісаныя, належным чынам на тое ўпаўнаважаныя, падпісалі гэты Пратакол.

Зьдзейсьнена ў Страсбургу 5 траўня 1988 году на францускай і ангельскай мовах, прычым абодва тэксты зьяўляюцца аднолькава аўтэнтычнымі, існуюць у адзіным экзэмпляры, які будзе захоўвацца ў архівах Рады Эўропы. Генэральны сакратар накіроўвае належным чынам засьведчаныя копіі ўсім дзяржавам-чальцам Рады Эўропы.

Дадатак да Пратаколу

Сфэра дзеяньня Пратаколу ў дачыненьні да асобаў, якія знаходзяцца пад ягонай абаронай

1. Асобы, на якіх распаўсюджваецца дзеяньне артыкулаў з 1-га па 4-ы, уключаюць замежнікаў толькі ў тым выпадку, калі тыя зьяўляюцца грамадзянамі іншых Бакоў і на законных падставах жывуць ці пастаянна працуюць на тэрыторыі адпаведнага Боку, пры тым разуменьні, што гэтыя артыкулы мусяць тлумачыцца ў сьвятле палажэньняў артыкулаў 18 і 19 Хартыі.

Гэтае тлумачэньне не перашкаджае любому з Бакоў распаўсюдзіць аналягічныя правы на іншых асобаў.

2. Кожны з Бакоў дасьць уцекачам, якія адпавядаюць вызначэньню Жэнэўскай канвэнцыі аб статусе ўцекачоў ад 28 ліпеня 1951 году і Пратаколу ад 31 студзеня 1967 году і на законных падставах жывуць на ягонай тэрыторыі, максымальна спрыяльны рэжым і ва ўсялякім выпадку ня менш спрыяльны за той, што прадугледжаны абавязкамі, прынятымі Бокам па згаданай Канвэнцыі, а таксама па любых іншых дзейсных міжнародных пагадненьнях, якія прымяняюцца да згаданых вышэй уцекачоў.

3. Кожны з Бакоў дасьць апатрыдам, якія адпавядаюць азначэньню паводле Нью-Ёрскай канвэнцыі аб статусе апатрыдаў ад 28 верасьня 1954 году і на законных падставах жывуць на ягонай тэрыторыі, максымальна спрыяльны статус і ва ўсялякім выпадку ня менш спрыяльны за той, які прадугледжаны абавязкамі, прынятымі Бокам па згаданай Канвэнцыі, а таксама па любых іншых міжнародных пагадненьнях, якія прымяняюцца да згаданых вышэй апатрыдаў.

Артыкул 1

Існуе разуменьне, што пытаньні сацыяльнага забесьпячэньня, а таксама палажэньні, якія адносяцца да дапамогаў па беспрацоўю, дапамогаў па старасьці і дапамогаў, якія выплочваюцца ў зьвязку са стратай карміцеля, могуць выключацца зь дзеяньня гэтага артыкула.

пункт 4 Артыкула 1

Гэтае палажэньне ня мусіць тлумачыцца як такое, што прадпісвае Бакам прызначыць праз закон альбо правілы пералік прафэсіяў, якімі з прычыны іхнага характару альбо ўмоваў працы могуць займацца толькі асобы пэўнай плоці.

Артыкулы 2 і 3

1. Дзеля ўжываньня гэтых артыкулаў тэрмін «прадстаўнікі працоўных» вызначае асобаў, прызнаных у якасьці такіх нацыянальным заканадаўствам альбо практыкай.

2. Тэрмін «нацыянальнае заканадаўства і практыка» ўключае, у залежнасьці ад абставінаў, акрамя законаў і правілаў, калектыўныя дамовы, іншыя пагадненьні паміж працадаўцамі і прадстаўнікамі працоўных, звычаі і адпаведныя судовыя рашэньні.

3. Дзеля прымяненьня гэтых артыкулаў пад тэрмінам «прадпрыемствы» разумееца сукупнасьць матэрыяльных і нематэрыяльных складных частак, якая валодае статусам юрыдычнай асобы, прызначаная для вытворчасьці матэрыяльных дабротаў альбо для паслугаў з мэтаю атрыманьня прыбытку і якая самастойна вызначае свае паводзіны на рынку.

4. Існуе разуменьне, што рэлігійныя супольнасьці і іхныя ўстановы могуць выключацца зь дзеяньняў гэтых артыкулаў, нават калі гэтыя ўстановы зьяўляюцца «прадпрыемствамі» згодна з сэнсам пункту 3. Установы, якія займаюцца дзейнасьцю, што натхнёная пэўнымі ідэаламі альбо кіруюцца ў гэтай дзейнасьці пэўнымі маральнымі і ідэйнымі канцэпцыямі і канцэпцыямі, што падпадаюць пад абарону нацыянальнага заканадаўства, могуць выключацца зь дзеяньня гэтых артыкулаў у той ступені, у якой гэта небходна дзеля захваньня арыентацыі гэтага прадпрыемства.

5. Існуе разуменьне, што адпаведны Бок лічыцца выканаў свае абавязкі, якія вынікаюць з палажэньняў артыкулаў 2 і 3, калі ў гэтай дзяржаве правы, выкладзеныя ў гэтых артыкулах, ажыцьцяўляюцца ў розных установах прадпрыемства.

Артыкул 3

Гэтае палажэньне не закранае ні паўнамоцтваў і абавязкаў дзяржаваў у тым, што датычыць прыняцьця правілаў гігіены і бясьпекі на працоўных месцах, ні кампэтэнцыі і адказнасьці органаў, прызначаных ажыцьцяўляць нагляд за іхным прымяненьнем.

Пад тэрмінам «паслугі і ўмовы сацыяльнага і сацыяльна-культурнага характару» разумеюцца паслугі і ўмовы сацыяльнага і/альбо культурнага характару, такія, як сацыяльная дапамога, спартовыя пляцоўкі, пакоі для маці-карміцелек, бібліятэкі, дзіцячыя лягеры адпачынку і да т.п., якія даюцца некаторымі прадпрыемствамі працоўным.

пункт 1 Артыкула 4

Дзеля прымяненьня гэтага пункту тэрмін «як мага долей» дапасуецца да фізычных, псыхічных і інтэлектуальных здольнасьцяў асобаў састарэлага ўзросту.

Артыкул 7

Існуе разуменьне, што пры падліку колькасьці зацікаўленых працоўных ня ўлічваюцца працоўныя, якія падпадаюць пад выключэньне ў адпаведнасьці з пунктам 2 артыкула 2 і пунктам 2 артыкула 3.

**Эўрапейская Сацыяльная Хартыя надрукаваная ў «НН» у 1-2 нумарах сёлета.*

# «Я, партызан Парынаў...»

*Прапаную ўвазе чытачоў дакумэнт, які я выявіў у фондзе Беларускага штабу партызанскага руху (фонд 3500) Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусі. Фактычна дакумэнт гэты ўяўляе сабою «неафіцыйную» гісторыю адной з партызанскіх брыгадаў, прычым напісаны ён чалавекам, які бачыў гэтую гісторыю «знутры», і па «гарачых сьлядох» апісаных падзеяў. Для даведкі: артыкулы пра Чаркасава і Харына можна знайсьці ў кожнай беларускай энцыкляпэдыі, напрыклад, «БелСЭ» ці «Беларусь у гады В.А.В.»*

**Ігар Лялькоў**

*Тав. Калініну*
*18.06.44, гор. Менск*

Рапарт

Я, партызан Парынаў, не магу стрымліваць сваё сэрца і мірыць яго з такім бяздушным і нечалавечным стаўленьнем з боку камандаваньня нашай брыгады і атраду, як да партызанаў, таксама і да мірнага насельніцтва – сялянаў. [...]

У 1942 годзе прыбыла група партызанаў з усходу ад брыгады тав. Дзімы ў Вялейскую вобл., пад камандаваньнем тав. Чаркасава прыблізна ў колькасьці 15 чал. Знаходзячыся ў Вялейскай вобласьці, спачатку яны сябе паводзілі як савецкія партызаны, але калі т. Чаркасаў займеў сябе адзінаначальнікам у вобл. з прычыны аддаленасьці ад брыгады тав. Дзімы і пусьціўся ў п'янку, у распусту. Пачаў ён падбіраць сабе такіх «хлопцаў», якія яму садзейнічалі ў правядзеньні яго распуснага жыцьця і непартызанскіх паводзінаў. Астатніх, хто па ягоным шляху ня йшоў, ён зь імі вельмі лёгка расправіўляўся цішком, моўчкі. А астатнія сыходзілі ў брыгаду Дзімы, каб пазбавіцца Чаркасава і не вырабляць такіх брыдкасьцяў, што рабіў Чаркасаў. [...]

Чаркасаву спатрэбіўся ў атрад лекар. Чаркасаў прыняў лекара-габрая Каварскага, у якога была жонка, дачка, сын. І тут Чаркасаў прыняў сваё рашэньне, — узяў у атрад дачку Раю, сына Барыса, а жонку пакінуў у вёсцы Чарэмшыцы Мядзельскага раёну Вялейскай вобласьці. І каб жонцы лекара Каварскага не дапамагаць у харчы, Чаркасаў пераапрануў у паліцэйскую вопратку 2-х сваіх спадручных партызанаў Ільіна Аляксандра і Янюка Аляксея, якія прыйшлі ноччу на кватэру жонкі Каварскага і зарэзалі яе.

Гэтага факту тав. Чаркасаву мала было. Чаркасаў, як камандзір атрада, прымусіў дачку Каварскага ўступіць зь ім у сужыцьцё пад страхам зброі. Раі не было куды падзецца, трэба было альбо жыць, альбо памерці. Але Раю не мінула яе сьмерць, якая была ў руках Чаркасава. Рая ад Чаркасава зацяжарала. Чаркасаву гэта не спадабалася. Ён пасылае Раю з групай на баявое заданьне і загадаў сваім блізкім «хлопцам» Заціразіну, Ясаковец, Пятроўскаму і інш. расстраляць Раю, і на базу не прыводзіць яе. Сьмелая й рашучая Рая з радасьцю ішла на б/заданьне, але ня ведала, што ўжо сьмерць ад Чаркасава за ёю ішла. І калі толькі яны зайшлі ў лес пусты, і там сьмелая Рая была расстраляная бандыцкай куляй у сьпіну. А грамадзкасьці атраду пазьней праз сьценгазэту было сказана, што Рая трапіла ў нямецкую засаду і загінула сьмерцю храбрых. «Хай будзе зямля пухам тябе, наша Рая», — так пісала газэта.

І выхаванцы Чаркасава, якія толькі бралі зь яго прыклад: яго партызан Трусаў, што праз моц зброі задумаў скарыстаць у маёнтку Холм Крывіцкага раёну дзяўчыну Надзю, так ужываў непасрэдна зброю, страляючы каля ног. Трусаў займаўся таксама сыстэматычнай п'янкай і зьдзяйсьняў непартызанскія ўчынкі.

Партызан Вінаградаў таксама дзейнічаў вышэйзгаданым чынам: у вёсцы Уткі Іжанскага с/с Ломацевай Любы бацьку пад пагрозай зброі выгнаў з хаты, а сам пачаў зьдзеквацца над дзяўчынай. Займаўся сыстэматычна марадзёрствам і п'янкай.

Партызан Судзьдзін неаднаразова гвалтаваў дзяўчын пад пагрозай зброі. Прыклад: у вёсцы Крыжаноўка Мядзельскага раёну ён, вынуўшы з кабуры наган, хацеў прымусіць дзяўчын, каб яны пайшлі да яго ў поўнае падпарадкаваньне, але дзяўчыны ад гэтага адмовіліся. Судзьдзін пачаў стральбу ў памяшканьні. Дзяўчыны вымушаныя былі распранутыя выбегчы на двор, а была зіма. За гэта камандаваньне дало Судзьдзіну 7 сутак строгага арышту.

Партызан Дубровін Ул. згвалтаваў жанчыну, якая выйшла ў лес зьбіраць ягады. Ён яе затрымаў і пад пагрозаю зброі згвалтаваў. У м. Кабыльнік зьбіў сьвятара. Дубровін прапіў шмат партызанскай маёмасьці, якая была ўзятая ў сялянаў для ўтрыманьня атраду і займаўся марадзёрствам, вёў распуснае жыцьцё, за што камандаваньне атраду загадам зьняла яго з пасады старшыны. Вышэйпамянёныя партызаны тварылі агіднасьці, п'янку, і вялі распуснае жыцьцё. [...] Партызаны, якія шчыра, добрасумленна, па-бальшавіцку ставілі пытаньне і не хацелі рабіць брыдкасьцяў, гэтым партызанам вельмі цяжка было знаходзіцца ў атрадзе. [...]

Партызан Мельнікаў быў расстраляны ў траўні месяцы 1943 году памагатымі Чаркасава Ільіным і Заціразіным. Т. Мельнікаў быў сьмелы, рашучы, як камандзір групы, паводзіў сябе шчыра, добрасумленна, змагаўся па-бальшавіцку за праўду, які меў на сваім ліку больш за 15 узарваных варожых эшалёнаў і рад іншых дывэрсіяў. Гэта быў неацэнны чалавек, які ўвесь час Чаркасаву рабіў заўвагі пра яго нетактоўныя паводзіны і выхаваньне партызанаў. Пасьля расстрэлу Мельнікава ўсе партызаны былі ў жаху. Чаркасаў бачыць хваляваньне партызанаў, пастроіў іх і перад строем заявіў: «Каб пра т. Мельнікава ані слова, абсалютная цішыня!» «Хто будзе пытацца, адказваць, што пайшоў на Ўсход. У выпадку, калі пачую, захады да вас мае ўжо вядомыя, вы ведаеце іх».

Партызан Жаркоў у в. Лужы Мядзельскага раёну зарэзаў жанчыну, якая выйшла ў лес па грыбы.

Па Вялейскай вобласьці разьнесьліся чуткі, і атмасфэра да партызанаў была вельмі кепскай, і [казалі] нібыта партызаны займаюцца не баявымі і не палітычнымі справамі, а толькі вышэйпамянёнымі рэчамі. [...]

Могуць пацьвердзіць вышэйзгаданае наступныя таварышы: камандзір Жагат А.А., Запявалаў (ад атрада Кутузава брыгады Варашылава), камандзір атрада «Истребитель» брыгады Варашылава Падольны, Гордан Грыгоры, Гордан Толік, камбрыг Маркаў, герой Савекага Саюза і шэраг іншых байцоў (кам-р Міхайлюк, Жыла Н., Шырынскі). [...]

Чаркасаў пасылае групу партызанаў на баявое заданьне ў колькасьці 7 чал., кам-р групы старшына атраду Сіманенка. Сіманенка быў самы блізкі да Чаркасава. Сіманенка таксама п'янстваваў, марадзёрнічаў, некалькі разоў зьбіваў жонку партызана Чарняўскага Аляксандра, каб тая забясьпечвала яго гарэлкай і біў іншых людзей. Сіманенка згвалтаваў дзяўчыну пад пагрозай зброі ў в. Моргі Крывіцкага раёну і пасьля, убачыўшы, што будзе адказваць, расстраляў дзяўчыну Фросю і ўсіх яе бацькоў — старых бацьку і маці.

Старшына Сіманенка ў кастрычніку месяцы 1943 г. з групай партызанаў Хамякоў, Рудась, Парынаў А., Тарноўскі, Лях, Парынава Еўд. былі на заданьні ў р-не Крывічы-Княгініна, дзе прабылі 19 сутак і ня выканалі баявое заданьне камандаваньня атраду, а займаўся камандзір групы п'янкай, распусным жыцьцём і марадзёрствам. А пра заданьне нават і ня думаў, а імкнуўся кам-р Сіманенка ўзарваць варожы эшалён чужымі рукамі. За гэта плаціў ён сьвіньнямі сваім «сувязным». «Сувязныя» сьвіньней пазабіралі, а эшалён не ўзарвалі.

Калі Парынаў Ал. пачаў гаварыць, што ўсе групы нашага атрада падарвалі варожы эшалён, а мы заданьні пры такіх складаных умовах ня можам выканаць, тады кам-р Сіманенка хацеў Парынава абяззброіць і праводзіць на базу. Парынаў зброі ня здаў, але кам-р Сіманенка бачыць, што Парынаў перашкаджае праводзіць і зьдзяйсьняць бясчынствы сярод мірнага насельніцтва, і накіраваў Парынава на базу. [...]

Камандзір Чаркасаў і камісар Харын, каб прыняць сыгналы ад партызана Парынава А. і іх ухіліць, Парынава А. абяззброілі і паслалі на тэрор, як за непадпарадкаваньне кам-ру Сіманенку. Тэрор быў прызначаны — кінуць у вакно гранату ў нямецкі гарнізон Нарач. Парынаў хоць і бачыць гэта за незаконнае пакараньне, але ўсё ж такі пайшоў на выкананьне. На гэтым жа заданьні кам-р Сіманенка ў п'яным стане задумаў згвалтаваць партызанку сваёй жа групы Парынаву Еўдакію, ён п'яны ўсю ноч не даваў ёй пакою пад усялякімі пагрозамі. Парынава на такія глупствы не рашылася. [...]

Кам-р Сіманенка прыбыў з заданьня, перамовіўся з кам-рам Чаркасавым і без аніякіх прычынаў партызанку Парынаву з атраду выгналі на хутар Гаць. [...]

Кам-р Сіманенка, калі на заданьні, у п'яным выглядзе адкрыў стральбу ў в. Хацімаўка ў доме і параніў 2-х партызан іншай брыгады, то тут Чаркасаў і Харын бачаць, што ўмяшаецца цэнтар П.Р., і іх па галоўцы не пагладзяць за зьдзекваньне над нявіннай партызанкай Парынавай, узялі яе назад у атрад.

Кам-р Чаркасаў і Харын задумалі схаваць і апраўдаць кам-ра Сіманенку, абвінавацілі невінаватага партызана Рабава Вас., які быў незаконна расстраляны, і на гэтым жа заданьні кам-р Сіманенка прап'янстваваў 20 сутак, ня выканаўшы баявога заданьня. [...]

Камандаваньне атраду і бр-ды для лепшай зручнасьці і рэгулярнай дастаўкі самагонкі ў штабы для правядзеньня забаваў, выкарыстаньня вольнага часу, таму што на заданьні яны не хадзілі альбо рэдка хадзілі, арганізавалі некалькі самагоначных пунктаў на в. Гаці, Крыжаноўка, Альсевічы, Заазер'е і т.д., дзе на гэтыя пункты рэгулярна дастаўлялася мука, а адтуль забіралася бачуркамі самагонка. Па загаду камандаваньня ў лістападзе месяцы 1943 году п-зану Белякову і Давыдаву было загадана ўзяць у сялянаў на 7 пудоў парсюка і завесьці ў в. Альсевічы Шаранговічу Ул. за гарэлку за 25 л. Загад быў выкананы. Парсюка ўзялі ў беднай сям'і, якая мела 5 дзяцей.

Старшыной Мардасавым вельмі шмат было наробленa брыдкасьцяў, марадзёрства сярод мірнага насельніцтва. Забіраў ён кароў, нягледзячы на гаспадарку — бядняк ён, сувязны альбо хто іншы. Былі такія выпадкі, браў карову ў бедняка, які меў 4 дзяцей, і пад пагрозай зброі, нягледзячы на сьлёзы малых дзяцей, кароў забіраў. Гэта вёска Кіржына. У гэты час было ўзята ў в. Кіржына 14 кароў, а на базу аддаў усяго 9. Астатнія 5 кароў па дарозе прапіў. Могуць пацьвердзіць Бараўскоў, Костачка Міх., Парынаў А.

Старш. Мардасаў займаўся перапродажам кароў. У адной вёсцы забірае, а ў другую прадае за самагонку. Тав. Мардасаў абескаровіў вёскі Кіржына, Янушава, Капусьцічы, Папоўкі, Ельніцы, Зане, Копчань, Бадзені, Малінаўка, Каранішча, Задубеньне, Няверы і інш. Частка гэтых кароў, якія былі забраныя, пайшлі не на агульнае харчаваньне партызанаў, а для асабістых інтарэсаў камандаваньня атраду і старшыны.

Партызан Чарняўскі Аляксандар быў агент па забесьпячэньні гарэлкай, дзе яго і празвалі «бутэлечкай». Ён больш за 30 коней са збруяй прадаў за самагонку, якія мусілі быць вярнутымі тым сялянам, у якіх бралі. Камандаваньне пра гэта ведала і нават садзейнічала яму ў правядзеньні гэтай кампаніі. [...]

Камандаваньне атрада з кастр. 1943 г. схадзіла на баявое заданьне ўсяго 3 разы на рэйкавую вайну, і тут вынікі атрымаліся наступныя: трэба было ўзарваць 120 рэйкаў, а ўзарвалі 50. Аднойчы ўсёй брыгадай пайшлі на рэйкавую вайну. Камандаваў камбрыг Чаркасаў, камісар атр. Грышаеў. І тут усіх партызанаў па дарозе пагублялі. Са 150 чал. засталося пры камандаваньні ўсяго 27 чал., а астатнія былі немаведама дзе. З астатніх частка партызанаў на гэтым баявым заданьні дзейнічала самастойна. Вось Вам бачна, якім было кіраўніцтва камандаваньня. А да гэтага камандаваньне нашае сядзела ў штабах і ні на адно баявое заданьне не хадзіла. А толькі піла самагонку, якая дастаўлялася з вышэйпазначанага самагонаперагоначнага пункту. [...]

Партызан Хільман Віктар 18 год зь вёскі Стахоўцы Мядз. р-ну быў па-зьверску зарэзаны ў р-не в. Лужы на загад Чаркасава за тое, што Віця прыхварэў трохі на заданьні. Т. Хільман да ўступленьня ў атрад быў сувязным і забясьпечваў многія атрады снарадамі зь мінулай вайны як ВВ.

Па прыбыцьці Чырв. Арміі здавалася, што «партызанка» сярод насельніцтва скончаная, але ў атрадзе ім. Будзёнага яшчэ працягвалася. Немцы пакінулі ў м. Будслаў 500 л. збожжа. Партызаны бр-ды Будзёнага групай «Орёл»: кам-р Рудзянкоў, палітрук Бондараў са сваімі партызанамі Леўчанка, Крапачоў, Вінаградаў, Панамарчук, Ананьеў распрапілі сярод мірнага насельніцтва, дзе п'яныя неаднаразова адкрывалі аўтаматна-вінт. стральбу сярод ночы. Гэтай жа групай 19.07.44. а 3 гадзіне ночы зламалі замок у касьцёле м. Будслаў і набралі рэчаў 2 клункі па 3 пуды. Куды падзелі — невядома. Забралі маёмасьць зьбеглага ворага 3 мяхі celebrations рознага барахла, валізу 70х50 см, польскіх срэбных грошай па 10 злот. Валіза была поўная, ледзьве ўдваіх зьнесьлі яе. Забрана ў амбуляторыі м. Будслаў 15 шт. коўдраў; сустрэлі ўцекачоў 6 падвод і забралі ў іх шмат рэчаў. [У гэтым] Удзел браў нач. штаба брыгады — Немаў.

Маёмасьць растранжырылі дзеля сваіх прыватных інтарэсаў. З гэтай жа групы партызанам Крапачовым А. адабрана на дарозе ў жанчыны карова, якую вялі на злучку да быка ў наст. вёску. 25.07.44. партызан Крапачоў павёў карову ў в. Табы і там разам з партызанамі Бондаравым, Вінаградавым прапілі яе сялянам.

Могуць пацьвердзіць гэты факт Сандрыгас І., Казлоў Вас., Пузанкоў Гр. і мірнае насельніцтва.

Камандаваньне нашага атрада і таксама бр-ды [вырашылі] схаваць утвораныя бясчынствы, каб не ўмяшаўся Цэнтар партыз. руху і скінуць зь сябе адказнасьць і прыхаваць сьляды гэтых фактаў, неаднаразова былі вымушаныя перапісваць сьпісы і кнігі па ўліку баявых справаў і вядзеньня ўліку партызан шараговых і каманднага складу.

Гэтае перапісваньне давала ім магчымасьць прыпісваць сабе баявыя справы. У нач. штаба Рыжова было 4 узрывы варож. эшалёнаў, а зараз болей за 8. У камісара Харына было 3 узрывы эшалёнаў, зараз болей за 5. Парэзалі падземны кабэль на 1 м, а запісана на 5 м і да т.п.

Прыпісваньне баявых справаў ішло за лік Мельнікавых ўзрываў, Лапянковых узрываў, Сумаковых узрываў, якія пайшлі і не атрымалі ніякіх дакумэнтаў пра зробленую імі баявую работу.

Блізкія да кам-ра Чаркасава партызаны, якія разам рабілі бясчынствы пры зьняцьці Чаркасава з кам-ра атраду зьбеглі ў розныя месцы (Ільін, Рыжоў, Сіманенка, Немаў), а як толькі аднавілі Чаркасава кам-рам атраду, то яны зараз жа вярнуліся да кам-ра Чаркасава і працягвалі садзейнічаць тварэньню розных сваіх ранейшых брыдкасьцяў і не адчувалі за падзеі адказнасьці. Усім вышэйпамянёным партызанам і камандзірам, якія рабілі бясчынствы, у іхнай баявой характарыстыцы нічога не адзначана у кепскі бок, а запісаныя ў баявую характарыстыку як шчырыя, дысцыплінаваныя таварышы-партызаны.

Кам-р Чаркасаў паставіў перад усімі сваімі блізкімі партызанамі, якія разам зь ім заадно рабілі бясчынствы, задачу: як заўгодна, пры любой магчымасьці, хто б зь іх яго ні сустрэў, зьнішчыць лекара Каварскага і ягонага сына Барыса, каб іх не было жывымі.

Чаркасаў гэта ведаў, што прыйдзе Чырвоная Армія і лекар Каварскі запатрабуе ў яго зь незаконнага расстрэлу дачкі і зарэзанай жонкі. Доля зьнішчыць апошніх з фаміліі Каварскіх —бацьку і сына й пазбавіць ад гэтага Чаркасава і прымірыць ягоныя бясчынствы выпала камандзіру Рабку.

Рабка скарыстаў для гэтага блякаду, што была на той момант у 1943, увосені. Безабароннага сына Барыса паслаў у выведку бяз зброі, а бацьку пакінуў бяз зброі яго чакаць, а сам з узброенымі партызанамі пайшоў у невядомым напрамку. І так застаўся на гібель Каварскі са сваім сынам. Больш Каварскага партызаны ня бачылі. І на гэтым скончылася патомства Каварскага.

Кам-р Рабка пасьля са сьмехам распавядаў, што, (маўляў), я пакінуў у абароне Каварскага й сына, праз гэта я вывеў зь цяжкіх абставінаў свой атрад бяз стратаў. [...]

Звычайна нашыя скаргі ў Цэнтар не даходзілі, калі мы падавалі іх па камандзе — камандаваньню атраду. Гэтыя скаргі зьнішчаліся ў штабе атраду, а нас за гэта пасылалі на тэрор і па ўсякаму перасьледавалі. Мы вымушаныя былі скаргі падаваць проста ў Цэнтар. Камандаваньне атр. ім. Будзёнага настолькі прызвычаілася займацца бясчынствамі і падробкай дакумэнтаў. [...]

Наша брыгада прыйшла на разьбіўку ў БШПР і прывяла з сабой 4 каровы. Брыгадай было выкарыстана ўсяго 1,5 каровы, якія пайшлі ў агульны кацёл, а 0,5 каровы засталося на кватэры штаба.

Згодна загаду БШПР астатніх 2-х кароў трэба было здаць на карысьць дзяржавы. Але гэта нашым камандаваньнем не было выканана. Нягледзячы на тое, што штаб бр-ды ўтрымліваецца на забесьпячэньні ў БШПР і атрымлівае рэгулярна прадукты харчаваньня і ўсё ж яны працягваюць зьнішчаць дзяржаўную жывёлу, рэжуць гэтых кароў і растранжырваюць на ўсе бакі.

Ім ня мяса патрэбнае, а сьпіртусовыя напоі і асабістае задавальненьне. Яшчэ не здадзена імі ў БШПР 5 коней.

Вышэйпазначаныя незаконныя парушэньні, што адбыліся сярод партызанаў і мірнага насельніцтва, могуць пацьвердзіць наст. т.т. партызаны: Хамякоў (партарганізатар бр-ды ім.Будзёнага), Тарноўскі, Бараўскоў Н., Давыдаў, Гордан, Кашын, Шырынскі, Рамяняк Васіль, Жыла Мік., Парынаў А., і можна нават зьвярнуцца да ўсіх шараговых партызанаў атраду ім. Будзёнага і іншых атрадаў нашай брыгады.

Я, партызан Парынаў А. падаю гэты рапарт вышэйстаячым арганізацыям і цалкам ўсе пункты з пазначанымі таварышамі пацьвярджаю і прашу БШПР і асабіста Вас, тав. Калінін, паставіцца да майго матэрыялу з усёй сур'ёзнасьцю. [...]

22.8.44. партызан ... /Парынаў/

На дакумэнце наступныя рэзалюцыі:

т. Бруханаў. Праверыць дэталёва і матэрыял дакласьці. Калінін 24-VIII-44

т. Анісімаву. Правядзіце расьсьледаваньне. Калінін.

Дадзена указаньне НШ. Бруханаў 26.8.44

*Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, фонд 3500, вопіс 2, справа 110, аркушы 422-440. Рукапіс, арыгінал.*

*Тэму праўды пра мінулую вайну адноўленая «НН» распачала з першага свайго нумару ў 1991 годзе. За гэты час надрукавана нямала невядомых дакумэнтаў і фактаў, найперш пра партызанку на нашай акупаванай тэрыторыі, пра тое, што партызаны часам правакавалі немцаў на расправы зь мірнымі жыхарамі, а часам і самі распраўляліся — жорстка і злачынна.*

*Між тым, нельга сказаць што праўды пра вайну ў нашым грамадзтве за гэтыя сем гадоў стала болей. Савецкая партызанка, кіраваная з Масквы, дагэтуль застаецца сьвятарнай каровай ідэалёгіі і практыкі малых і вялікіх кіраўнікоў цяперашняга рэжыму, як зрэшты і большасьці насельніцтва. Сказаўшы ўсю праўду пра савецкіх партызанаў, давялося б «мяняць абразы», а значыць, і ўвесь стагнацыйны ўклад жыцьця Беларусі, што не ўваходзіць у мэты ані кіраўнікоў, ані падначаленых. Таму і зачыняюцца наглуха архівы, а пракуратура і КГБ пільна адсочваюць публікацыю любога «нестаноўчага» факту з жыцьця герояў рэйкавых баталіяў. Таму і займаюцца рэальнай гісторыяй вайны толькі незалежныя і пераважна маладыя навукоўцы, якім ісьціна даражэйшая за стэрэатыпы, пасады і званьні. Сёньняшняя публікацыя ў «НН» — з шэрагу такіх працаў.*

**С.П.**

# Новы дамавікамэрон



Уладзімер Караткевіч «Вова Адамчык (Адам Глёбус)», 1977

**Адам Глёбус**

*Казкі з новае кнігі*

## АНЁЛ

Анёл зьяўляецца з-за паркана.

Можа хто з маіх суседзяў і бачыў: як Анёл выходзіць з пад'езда ці як вылятае са слухавога акенца майстэрні, што некалі належала савецкаму разьбяру, а цяпер — уласнасьць нацыянальнага музэя. Можа й так. Толькі сапраўдны Анёл уздымаецца з-за жалезабэтоннага паркана, па якім напісана чырвонае слова НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, з-за таго самага плота, што адгароджвае стары двор ад новабудоўлі. Спачатку паказваецца анёльская галава: кудзеры доўгіх сьветлых валасоў вакол вузкага белага твару з тонкім доўгім носам дый круглымі сінімі вачыма. Потым зьяўляецца шыя з акуратным кадыком, за ёй выплываюць плечы, за якімі можна ўбачыць магутныя крылы.

Можа хто з маіх знаёмых і сустракаў Анёла ў залатым плашчы, ці ў бліскавічным панцыры мадрыдзкага тарэадора. Можа... Але Анёл, які ўздымаецца з будоўлі, носіць яскрава-чырвоны хітон. На Анёле доўгі, колеру артэрыяльнае крыві хітон. І больш нічога.

Нават зімою, у лютыя маразы Анёл босы. Зрэшты, Анёл ня ходзіць па грэшнай зямлі. Ён лунае, плянуе, лётае. Анёл уздымаецца, узносіцца, творыць урачыстасьць. Анёл — лётчык ад Бога.

«Мой мілы таварыш, мой лётчык, — думаецца мне, калі бачу, як над Менскам плыве Анёл, — Вазьмі ты з сабою мяне». Толькі ён не здагадваецца пра мае вершаваныя рэфлексіі. Анёл ня ўмее чытаць чужыя думкі. А я не магу пагаварыць з Анёлам, бо ня вывучыў анёльскую мову. Застаецца адно глядзець, як доўгія лёгкія пальцы сыплюць з-пад хмараў ружовую яблыневую квецень. У Раі заўсёды ёсьць яблыня ў квецені. І я не бядую, што Анёл не разумее мяне.

Можа, хто з маіх сяброў мае іншыя думкі пра божага лётчыка. Хай... Толькі даўжыня прамоўленай малітвы не вызначае шчырасьці веры ў Анёла.

## ЛЮДАЖЭР

Ад палаца Мастацтваў мужчына спусьціўся праспэктам Скарыны на пляц Перамогі, дзе завітаў у бар-краму «ЗОРКА». Сакаўная прадавачка прывітальна заўсьміхалася. Мужчына працёр акуляры й заняўся разгляданьнем паліцы з алькагольнымі напоямі.

— Віскі любіце? — спытаў чырвонатвары дзядзька, які, стоячы пры вітрыне з каўбасамі, пацягваў з плястыкавай шклянкі гарачы глінтвэйн.

— Люблю, — кінуў мужчына і папрасіў паўнацелую маладзіцу падаць бутэльку бурбону, каб уважліва прачытаць этыкетку.

— А я на самагоннае пойла глядзець не магу. Нас, вайскоўцаў, пампавалі ім у Анголе.

— Да віскі я прывучыўся ў Эгіпце, — ня хочучы таго, мужчына завязаў вузельчык размовы.

— А што рабілі ў Эгіпце? — чырвонаносы замовіў наступную порцыю духмянага глінтвэйну.

— Тое, што вы ў Анголе, — выказала здагадку беларукая прадавачка, напаўняючы крывавым напоем мяккую шклянку.

— Э, не... У Анголе я людзей забіваў. Каўтаў віскі, цаляў у двухногіх. Піў і страляў. А калі хацелася закусіць, жэр нябожчыкаў. Выбіраў смачных дзяўчат, адкусваў з грудзей смочкі, жаваў, глынаў і запіваў алькаголем. Гнюсны тып, забойца, кат і Людажэр. А ён, — налітыя глінтвэйнам вочы блiснулі ў бок аматара бурбонаў, — грамадзянін сьціплы, выхаваны, інтэлігентны, у акулярах. Такія чалавечыны не ядуць, людзей не забіваюць і міравую рэвалюцыю ў Афрыку не экспартуюць. Яны п'юць дарагі віскі зь лёдам, будуюць надзейныя грэблі і вывучаюць флёру з фаўнай. Ненавіджу самагон. Беларускай гарэлкі магу колькі заўгодна выжлукціць, а ад кроплі бурбону млею.

Мужчына разьлічыўся з апэтытнай прадавачкай і схаваў біклагападобную бутэльку ў кішэню, каля сэрца.



— Чакай, шаноўны, дык што ты ў Эгіпце рабіў? — Людажэр насунуўся на мужчыну.

— Рэстаўраваў старажытныя папірусы...

— Га-а, што я казаў? — мутнае вока падміргнула сьпелай маладзіцы.

Пад задаволены рогат Людажэра мужчына пакінуў бар-краму «ЗОРКА».

## БУЛЬВАРНІК

Штораніцы ён выглядае ў вакно. Ці ёсьць сонца? Ён працуе выключна ў добрае надвор'е. Ён актор балету. Яму патрэбныя гледачы. А яны бываюць на бульвары толькі ў ясныя дні. Таму дзень пачынаецца з доўгага позірку ў неба.

Ён уцёк зь Беларусі ў Барсэлёну. Назьбіраў грошай, перапрадаючы валюту на Камароўскім кірмашы. Праз знаёмага мастака знайшоў сквапную гішпанку, фіктыўна ажаніўся і перабраўся ў Каталёнію. Атрымаў там від на жыхарства і зьняў у рабочым раёне маленечкі пакой з варэльняй і душам. І цяпер на золку выглядвае ў адзінае вакно. Ці не пайшоў дождж?

Калі на вуліцы суха, Бульварнік бярэ валізу з тэатральным строем Дон Кіхота ды йдзе ў цёмны двор, што каля рынку. За скрыняй з-пад гароднiны ён пераапранаецца ў рыцара маркотнага вобразу і з ног да галавы зафарбоўваецца ў срэбны колер.

Цэлы сьветлы дзень ён стаіць на бульвары Рамбла і за кінутую манэтку робіць узмах драўлянаю дзідай.

Штовечар Бульварнік выграбае са скрыні нажабраванае. Дзеліць грошы на тры роўныя долі: на старасьць, на жыцьцё й на задавальненьне. А радасьці ў яго вельмі простыя. Разам з вулічным мастаком — сэрбам, які ўцёк з Босьніі, Бульварнік ідзе ў бар і напіваецца маскоўскай гарэлкі.

**Станіслаў Ежы Лец**

# Непрычасаныя думкі,

*адчытаныя з нататнікаў і сурвэтак праз трыццаць гадоў*

Яна аддалася мне, але не хацела забрацца.

Ня бойцеся, мае думкі настолькі маленькія, што й пасьля сьмерці я буду кідаць іх вам зь неба на сьняжынках.

Ён прайграў свой талент у гульні словаў.

Не чакайце патопу, мыйце ногі!

Фізыка? Часам паветра бацькаўшчыны цяжэйшае за зямлю бацькоў.

Канец сучаснай казкі: «А калі іх не рэабілітавалі, то жывуць яны й па сёньняшні дзень».

Я бачыў жывы сымбаль трыюмфу чалавека. Ён ужо стаяў над безданьню, і тады зрабіў зь яе сік-сік.

Справа была настолькі празрыстая, што ўсе аб яе паразьбівалі сабе лбы.

Калі б Эвангелісты ажылі, то за свае эвангельлі ўзялі б такія ганарары, што лёгенька зрабілі б на зямлі Божае Каралеўства.

Дзіўна — сабака ня ведае, што антыўрадавыя выкрыкі забароненыя, але не выкрыквае іх!

Страшна глядзець у вочы небясьпецы, калі яны прыгожыя.

З кожным папугаем лёгка знайсьці супольную мову.

Я зьмерыў яго ад ног да галавы, і ад галавы да ног. Выйшлі розныя памеры.

Дурань ніколі не зразумее няправільна.

Уцёкі ад сябе? Трэба добра падумаць, кім быць: тым, хто ўцякае, ці тым, хто застаецца.

Мне заўжды здаецца, што я — своеасаблівы сьвятар, які, апавядаючы анэкдоты прысуджаным па дарозе да месца казьні, у душы перакананы, што сам — вернецца.

Злачынства расьце вельмі дзіўна. Карані яго часам — вельмі высока, а плады ў зямлі...

Дзяржава багаславіць сьляпога й глухога грамадзяніна.

Мова фактаў часам мае чужаземны акцэнт.

«Вы падрываеце сыстэму», — крычаў на мяне прадстаўнік улады. «Вы заўважылі гэта па мне ці па сыстэме?» — зацікавіўся я.

Жыць банальна. Памерці банальна. Сучаснасьць прыдумала трэцюю форму.

Ніколі ня трэба пачынаць індустрыялізацыю краіны ад аўтаматызацыі людзей.

Не пляціся ў хвасьце разьвіцьця, бо калі пачнецца адступленьне, цябе абвінавацяць як правадыра дэзэртыраў.

Я страціў веру ў слова, але цэнзура мне яе вярнула.

Мяне штодзённа пераконваюць, што ўлада — гэта я. Я й ня ведаў, што я такі мазахіст.

Я не пазнаю гэтых людзей. На барыкадах яны былі вышэйшымі.

Кожны мост павінен спалучаць два берагі.

Утылітарнасьць з прыгажосьцю.

Бедныя суседзі таго народу, які жыве на мяжы роспачы.

Молатам чалавека можна забіць, і сярпом можна. Лішне казаць пра серп і молат.

Слова гонару — нескланяльнае.

Маляваньне далейшай будучыні ружовымі колерамі выклікае ў чалавека пачуцьцё трагічнай безнадзейнасьці з прычыны кароткага жыцьця.

Будуем на вякі, руйнуем назаўжды.

Часам абуджаюцца ўва мне страхі першабытнага чалавека, але марна я чакаю ягоных радасьцяў.

Надзеі бадай што зьдзяйсьняюцца, бо іх штораз менш.

Мне часам здаецца, што Творца быў прыхільнікам ангельскага манархізму: Бог пануе, але не кіруе.

Уласна жыў з чужой жонкай.

Хто наеўся страху, той не адчувае прагі ўражаньняў.

Я бачыў усё — не заўважыў толькі дырэктара М.

Аазісы — бэнзастанцыі вярблюдаў.

Сам-насам застацца не маглі, бо яго не пакідала пачуцьцё гумару.

Здаецца, што некаторыя аўтары пачалі пісаць толькі таму, што ім не было чаго сказаць.

Бяда людзям, у якіх чорна-белая вясёлка.

Адсутнасьць уласнага пісьмовага стала доўга ахоўвала мяне ад барацьбы з ідыятызмамі, якія я штодзённа знаходжу ў прэсе. Стол ужо ёсьць, толькі сукна на ім бракуе. Ці надоўга гэты блаславёны стан?

На дне няшчасьця ляжаць рэшткі мараў. Вось бы іх выцягнуць і адрамантаваць!

Сьмерць, ці памятаеш ты свае першыя магілкі?

У Гітлера былі вусікі, але ўвага — наступны можа быць кучаравы і з бакенбардамі!

Сабачкі паліваюць ліхтары, а тыя не растуць. Але сабачкі нястомна паліваюць у сваёй бязьмежнай веры. Добры ўзор: палівайма ліхтары нашых мараў.

Ці ёсьць нешта страшнейшае, чым Чынгіз-Хан? Чынгіз-Хам.

Ніводная з маіх каханых не цікавілася маёй паэзіяй. Я зьдзіўлю сябе на думцы, што ганаруся гэтым.

Быць свабодным у сьне — першая ступень свабоды.

Два патрыятызмы ніколі не сутыкаюцца. У барацьбе з аднаго боку заўжды любоў да бацькаўшчыны, а з другога — нянавісьць да чужаніцаў.

У пустую жанчыну можна ўкласьці шмат грошай.

Бяссоньніца зь бязмысьліцай — бяздушная ноч.

Некаторым нацыянальная перадузятасьць чужая. Ім усё роўна каго біць.

Іголка грамафону сшывае мэлёдыю з успамінам.

Да думкі, сустрэтай уначы, трэба як да жанчыны прыглядзецца ў дзённым сьвятле.

Кажуць, што ўжываньне мыла сьведчыць пра вышыню культуры ў краіне. Зразумела. Толькі ім трэба мыцца.

Асьцярожна з выбарам мараў, бо яны часам зьдзяйсьняюцца.

Нішто не мінае бяз рэха. Нават ціша.

Гэта настолькі добры парадыст, што ён зрабіў зь сябе пародыю чалавека.

Нэгатыў ідыятызму не зьяўляецца мудрасьцю.

Міт акрэсьлівае сьвядомасьць.

Нават на белай паперы могуць быць белыя плямы.

Дрэвы пачалі плённую дзейнасьць.

Крытыкі займаюцца платнай любоўю да літаратуры.

Задача дня + задача дня + задача дня і г.д., а потым, ку-ку, высьветліцца, што іншая была задача эпохі.

Відавочна, пекла мае ўваход і выйсьце, калі можна прайсьці празь пекла.

Большасьць людзей сьветапогляд мае акрэсьлены. Меншасьцю.

Праўдзе ніхто не зірнуў у вочы. У яе ж толькі вачніцы.

А бедны Гітлер думаў, што антысэмітызм можна прычапіць толькі да нацыянал-сацыялізму.

Калі б каханьне было вечным, чым займаліся б іншыя жанчыны?

Часам трэба перастаць думаць, каб зарыентавацца ў сытуацыі.

Моры чалавечых сьлёз не былі б такімі вялікімі, калі б не былі такімі плыткімі.

Ці вош у грыве ільва больш адважная, чым у хвасьце зайца?

Каханьне прыходзіць часам так раптоўна, што застае нас у нэгліжэ.

Першародны грэх быў крыніцай Божай магутнасьці — неверагоднага росту колькасьці вернікаў.

Ягоныя продкі сядзелі яшчэ на ўласным генэалягічным дрэве.

Ягоная роля была настолькі двузначная, што ён адчуваў сябе ўдвая важнейшым.

Раздваеньне асобы можна склеіць нейкім іншым вар'яцтвам.

Я ніколі ня мог згадзіцца з фактам.

Пераварот здаў на выдатна. Перайшоў у наступную клясу. Пераможцаў.

Дзе тыя часы, калі над нашай галавой вісеў Дамоклаў меч?

У рамках таталітарнай дзяржавы ня можа быць іншага вобразу, чым партрэт дыктатара.

МАЛПАМЭНА.

Вось калі б можна было нявыкарыстаны час адкласьці на потым!

Мастацтвазнаўцы часта нагадваюць мне тых, хто, ведаючы хімічны склад паху, не адчуваюць прыгажосьці водару.

Свабода некалі была утопіяй. Сёньня яна — ужо нават не рэчаіснасьць.

Тая жанчына была як манэта: пераходзіла з рук у рукі, але ня страчвала вартасьці.

Добра, можа праз некалькі стагодзьдзяў мы будзем хадзіць на ягоную магілу: тут ляжыць прымітыў XX стагодзьдзя. Але пакуль што яго лепей абмінаць.

Што зьнішчае сілу прыцягненьня? Прызвычаеньне.

Калі мост ламаецца, берагі застаюцца.

Ці сэнтымэнтальны я? О, яшчэ як! Я плачу, калі прыгадваю свой юнацкі цынізм.

Хто вывучае жыцьцё, хай рыхтуецца й да пытаньняў зь іншай галіны.

Гэта пустка, што вылазіць з нас — спус-

СТО ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТАГОДЗЬДЗЯ



# Аркадзь Астаповіч. ДВОРЫК

Менск, які доўгія стагодзьдзі быў цэнтрам самага вялікага ваяводзтва ў Вялікім Княстве, праз нейкі няясны зьбег абставінаў ня быў тым местам, дзе б нараджаліся выдатныя асобы. Здавалася, нішто таму не замінала... Тым часам Вільня, Полацак, Наваградак, нават далёкі Мсьціслаў бясконца выпраўлялі ў людзкі сьвет рыцараў духу, мяча і пяра. Менск, нібы прадбачыўшы сваё прызначэньне, зьберагаў у сабе тыя зярняты, што прарасьлі толькі напрыканцы мінулага стагодзьдзя. Колькі ў Менску нарадзілася мастакоў? Хіба Ваньковіч, ды паўлегендарныя Шэмеш, Герасімовіч, Баркоўскі, сьведчаньні творчасьці якіх дайшлі да нас пераважна ў дакумэнтах...

... Сярод тых, хто нарадзіўся ў Менску напрадвесьні ягонага сапраўднага прызначэньня, быў Аркадзь Астаповіч. Ён — сын тыповай шляхецкай беларускай сям'і, калі можна казаць пра нейкую тыповасьць у дачыненьні да чалавечых лёсаў. Ягоны бацька быў калескім асэсарам, а пазьней нават тытулярным дарадцам, выкладаў у Менскай гарадзкой вучэльні. Калі Аркадзю было чатыры гады, бацькі пераехалі ў Рэчыцу, якая тады ўваходзіла ў склад неабсяжнае Менскае губэрні. Тут ягоны бацька атрымаў больш спакойную пасаду інспэктара Рэчыцкае гімназіі...

... Пра гэтыя першыя гады мастака ягоная пляменьніца, сп. Сьмірнова ў прадмове да каталёгу выставы Астаповіча і ягонае сястры, Астаповіч-Бачаровай, піша наступнае: «Сям'я Астаповічаў жыла (у Менску. — С.Х.) на рагу Магазіннай (Кірава) і Каломенскай (Сьвярдлова), а пасьля на Захараўскай (пр. Скарыны)... У 1900 годзе сям'я назаўсёды пакідае Менск... але працягвае жыць спачатку ў невялікім, надта жывапісным мястэчку Рэчыца, пазьней — у Горадні, куды Антон Астаповіч, чалавек вельмі суворага і строгага нораву, пераяжджае з жонкаю і падрослымі дзецьмі, на тое, каб даць ім грунтаўнейшую адукацыю. У 1906-1914 гадах сям'я Астаповічаў жыве (праўда, некалькі замкнёна) у дастаткова прасторнай і сьветлай пяціпакаёвай казённай кватэры ў цэнтры Горадні. У кола іх дачыненьняў уваходзіць галоўным чынам мясцовая інтэлігенцыя — лекары, настаўнікі, сьвятары. Гарадзенскі пэрыяд — адзін з самых дабратворных у жыцьці брата й сястры. Менавіта тут яны пачынаюць маляваць». Ад тых ідылічных часоў застаўся гімназічны альбом Аркадзя Астаповіча, які зьберагаецца ў архівемузэі літаратуры й мастацтва ў Менску. Гімназію ў Горадні, дарэчы, Астаповіч скончыў з залатым мэдалём. З таго часу яны зь сястрою прыстойна валодалі нямецкай і французскай мовамі.

... Думаючы пра тыя гады, што юны Астаповіч правёў у Горадні, міжволі прыгадваецца лёс Максіма Багдановіча. Багдановіч таксама ўбачыў сьвет у тым, яшчэ зацішным Менску, які, паводле Шпілеўскага, у цэнтры нагадваў гарады польскія, а на ўскрайках — ужо расейскія. Яны былі амаль раўналеткамі, выхадцы з аднаго стану, з радоў некалі каталіцкіх, з настаўніцкіх чынавенскіх сем'яў. Спачатку Менск, пасьля Горадня. Суплёт звычайных абставінаў. Але менавіта такім чынам нараджалася новая беларуская культура. І Багдановіч і Астаповіч — прадстаўнікі першае плеяды ўласна беларускай гарадзкой культуры. Непазьбежны працяг гэтае тыпалёгіі — шлях на Ўсход, у мэтраполію...

... Па сьмерці бацькі, у 1914 годзе, сям'я Астаповічаў зьяжджае ў Пецярбург. Тут Аркадзь у 1915 годзе паступіў у ... Політэхнічны Інстытут на караблебудаўнічае аддзяленьне. Бадай, гэтая акалічнасьць была невыпадковаю. Усё далейшае жыцьцё тэма тэхнікі, яе дасканалых, разумных формаў неадчэпна выяўлялася ў ягоных творах. Вось «Драпежнік» — зграбная вастрадзюбая птушка, што назірае за палётам аэрапляна-казурак, альбо «бяскрыл» — велізарныя новазэляндзкія птушкі-ківі не пужаюцца паравоза, што імчыць па фэрмах стальнога маста, альбо мэханізмы заводаў, што жывуць сваім, апрычоным жыцьцём бязь людзкае прысутнасьці...

... Недзе ў той жа час Астаповіч са сваёю сястрою паступілі ў Малявальную школу пры Імпэратарскім Таварыстве Заахвочаньня Мастацтваў. Пазьней сястра Зінаіда згадвала: «Асабліва прыцягвалі выставы «Мира искусства». Там выстаўляліся цікавыя мастакі Мітрохін, Лансерэ, Білібін, Нарбут, Сомаў. Вастравумава-Лебедзева... Брат быў вельмі эрудыраваным чалавекам у галіне выяўленчага мастацтва і ў галіне музыкі, літаратуры, паэзіі. Зь ім было вельмі цікава...»

... 1916 год. Вайна. Колькі ні пішу пра беларускае мастацтва, гэтае слова непазьбежна ўсплывае там, дзе пісаць яго няма жаданьня. Лёс зьвёў Астаповіча з войскам, дзе ён мусіў прайсьці паскораны курс інжынэрна-сапёрнае вучэльні, а пасьля дакончыць службу ўжо ў шэрагах бальшавіцкага войска ў 1922 годзе. Праўда, выпала яму два гады павучыцца ў Малявальнай школе ў сталіцы УССР, у Харкаве, дзе ён, на думку дасьледчыкаў, захапіўся супрэматызмам...

... Нарэшце ён вяртаецца на Бацькаўшчыну. Але не ў разьбітыя, галодныя гарады, а ў радавое гняздо Астаповічаў, у вёску Навасёлкі на Меншчыне. Яшчэ нестарая сядзіба, якую бацька, Антон Антонавіч, пабудаваў для сваіх старых бацькоў, стала яму ўтульным домам. У гэтай сядзібе ўжо жыла ягоная любая сястра, Зінаіда. Тут, у Навасёлках, ён пабраўся шлюбам са сваёю кузінай, дачкой тутэйшага сьвятара, Нінай Рафаловіч, якая працавала тут настаўніцай. Праз колькі гадоў тут нарадзіўся і ягоны першы сын Арсень. У лісьце да сястры пра сваё новае, вясковае жыцьцё мастак пісаў: «... мой жыцьцёвы шлях канчаткова вызначыўся і далейшыя зьмены ў ім могуць адбыцца толькі пад уплывам стыхійных сілаў...» Дасьледчыца Надзея Вусава невыпадкова называе гэты пэрыяд «навасёлкаўскім рэнэсансам» Астаповічаў. За гэтыя сем гадоў Аркадзь Астаповіч стварыў больш за 200 графічных твораў, і, напэўна, гэта было лепшае з таго, што яму наканавана было зрабіць. Сярод гэтых работаў і «Дворык»...

«Дворык» датаваны пачаткам 20-х гадоў. Напэўна, гэта ня вельмі дакладна. Гэтая работа падпісаная пабеларуску. Прынамсі, гэта не магло быць раней за 1922 год, калі мастак вярнуўся дамоў. Надзея Вусава трапна адцеміла, што сапраўднае нацыянальнае ўсьведамленьне прыйшло да мастака ў дарослым веку, у 20-я гады, калі ён пачаў падпісваць свае творы па-беларуску. Няцяжка здагадацца, што ўсьведамленьне сваёй ролі, як стваральніка новага беларускага мастацтва, адбывалася ў Астаповіча пад уплывам Вацлава Ластоўскага, зь якім ён пасябраваў. Ластоўскі прыехаў у БССР у 1927 годзе... На пасадзе дырэктара Беларускага дзяржаўнага музэю ён прыкладае шмат намаганьняў для кансалідацыі маладых творчых сілаў нацыі. Захаваліся сьведчаньні таго, што сястра Астаповіча, Зінаіда, выконвала замовы Ластоўскага для музэю. У каталёзе Трэцяй Усебеларускай мастацкай выставы за 1929 год Астаповіч сам паведамляе, што дзьве ягоныя працы набытыя Беларускім дзяржаўным музэем, а дзьве — Якубам Коласам. У 1930 годзе акадэмік Вацлаў Ластоўскі быў арыштаваны...

Ці быў знаёмы Астаповіч з мастацтвам Японіі? Беручы пад увагу ягоную эрудыцыю й прагу ведаў, гэта выглядае натуральным. Краявіды Хакусая ці Андо Хіросігэ, захапленьне якімі перажыла кніжная графіка Эўропы канца мінулага стагодзьдзя, міжволі прыходзяць у галаву, чым пільней углядаесься ў гэты невялікі малюнак — «Дворык»... Магутны згустак эмоцыяў у статычнай кампазыцыі, калаварот мараў, сноў, спадзеваў. Беларускі сон... Можна ўзгадаць ангельскую графіку канца мінулага стагодзьдзя, творы Дабужынскага ці Вастравумавай-Лебедзевай... Аднак Астаповіч быў барбарам — эстэтам, які не атрымаў сыстэматычнае мастакоўскае адукацыі і не падпаў пад чужыя ўплывы. Ён зьдзейсьніў тое ў графіцы, што па сваім маштабе і сіле зьдзейсьніў Багдановіч у паэзіі — прачыніў дзьверы туды, куды не пайшла нашая культура — у сьвет чыстае красы. Дворык дзедавае хаты — нямы крык тугі па тым, што ня збудзецца ніколі — парадак, чысьціня і пэўнасьць... Недасяжная гармонія таго, што іншым народам дадзена ўжо толькі па праву нараджэньня.

Сяргей Харэўскі





**АРКАДЗЬ АСТАПОВІЧ** (1896, Менск — 1941, в. Рухава-Буды, Арлоўская вобл., Расея) графік, жывапісец, пэдагог. Скончыў у 1914 годзе Гарадзенскую мужчынскую гімназію. Вучыўся ў Політэхнічным інстытуце ў Пецярбургу і ў Малявальнай школе Імпэратарскага таварыства Заахвочаньня Мастацтваў. У 1920-1922 гадах займаўся ў малявальнай школе ў Харкаве.

**У папярэдніх нумарах прадстаўленыя творы:**

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск, лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча
19. Іосіф Лянгбард. Менская Опэра

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

П.С. зь Менску. Апавяданьне «Рыхтуйся» надрукуем, але яго трэба крыху ўдасканаліць, і лепш, калі гэта зробіць аўтар. Залішні аб'ём адбіваецца на частым паўтарэньні адных і тых «калярытных» словаў. Паспрабуйце пакінуць адну зь дзьвюх «дарог» і здыміце невыразны эпізод з «працай».

В.У. «A test of love» — хвалюе. Шкада, завялікі аб'ём і месцамі газэтная мова. Ці ўзяліся б Вы зрабіць варыянт для «НН» — больш дынамічны і кароткі?

В.С. зь Менску. «Каляндар рыбалова» прапануйце ў спэцыялізаванае выданьне.

П.В. зь Менску. «Гільятына» — больш публіцыстычны допіс у газэту, чым апавяданьне.

А.Х. зь Менску. Да юбілею мы спазьніліся, але тэкст мяркуем надрукаваць.

К.Т. Бадай, лепей за публіцыстыку і гумарэскі Вам удаюцца апавяданьні з выразным сюжэтам — пра тое, што магло б быць...

М.С. зь Менску. «Мова. Нацыя. Дзяржаўнасьць...» — слушныя, шматкроць паўтораныя тэзы. Загадка ня ў іх, а ў тым, чаму яны ніяк ня хочуць запрацаваць. Праблема ня ў тым, што пра гэта сказана мала (якраз, можа, зашмат), а ў тым, што — амаль безвынікова.

В.А. з Магілёва. Можна шмат пра што заўгодна разважаць, але трэба, каб слова ўрэшце трапляла ў сутнасьць бытнаваньня, а не загортвалася ў выпадковай тэме, як у кокане.

"Наша Ніва" незалежная газэта

НАША НІВА

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

рэдактар ... Сяргей Дубавец
выдавец ... Рэдакцыя газэты "Наша Ніва"
заснавальнік ... Павал Жук
адказны сакратар ... Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ... Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ... Андрэй Лапцёнак, Віктар Корзун
дызайн і вёрстка ... Лявон Раманчык
набор ... Аляксандра Макавік
стыль і карэктура ... Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ... Сяргея Шупы

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 213-43-52
E-mail: niva@user.unibel.by
http:////members.xoom.com/Nasa_Niva



Наклад 2951. 8 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк 3:18 , 02/3/1998 . Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 1133. Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" — 9500 руб.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12